Вам трэба працягнуць падпіску на «Народную Волю»? Зрабіць гэта можна да 26 лютага.

# Народная Воля

№ 15 (3756)

22 лютага 2013 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля». Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## Былога дырэктара сочынскага санаторыя «Беларусь» Георгія Саракашыша і яго намесніка Аляксандра Кізіма трымаюць у следчым ізалятары Камітэта дзяржаўнай бяспекі



У мінулым нумары "Народнай Волі" паведамлялася пра невядомы лёс кіраўнікоў санаторыя "Беларусь", які падпарадкоўваецца Кіраўніцтву спраў прэзідэнта. Аказваецца, яшчэ перад Новым годам іх выклікалі ў Мінск і яны... зніклі.

У апошнія дні тэлефон прэс-службы КДБ, як і раней, не адказваў. І толькі ў амбасадзе Расіі нам паведамілі, што дыпмісія атрымала паведамленне ад беларускага боку аб тым, што грамадзяне Расійскай Федэрацыі, якія прапісаны ў Сочы, утрымліваюцца пад вартай у следчым ізаляры КДБ Беларусі. Вядома, што сакратары консулаў ужо наведалі гэтую ўстанову.

Дарадца амбасадара Расіі ў Беларусі **Уладзімір Марчукоў** патлумачыў: "*Мы, са свайго боку, накіравалі ноту ў МЗС Беларусі і папрасілі забяспечыць сустрэчу з арыштаванымі. Была размова нашых супрацоўнікаў з прадстаўнікамі Генеральнай пракуратуры на гэты конт. Будзем спадзявацца, што сустрэча адбудзецца бліжэйшым часам*".

У чым правініўся былы дырэктар санаторыя "Беларусь" і яго намеснікі, пакуль не вядома. Па якім артыкуле іх абвінавачваюць? На гэтыя пытанні афіцыйныя структуры адказу не даюць. Хто-ніхто лічыць, што падставай для крымінальнай справы магло стаць будаўніцтва новых карпусоў здраўніцы.

Між тым Георгій Саракашыш шмат чаго зрабіў для нашай краіны. Менавіта ён, маючы адпаведную даверанасць, прыклаў усе намаганні, каб выселіць расіян, сваіх суайчыннікаў, з прылеглай да санаторыя тэрыторыі, каб расчысціць пляцоўку для будаўніцтва новых карпусоў здраўніцы. Людзі не жадалі добраахвотна перасяляцца з самага прэстыжнага месца горада-курорта Сочы (санаторый месціцца на тэрыторыі ўнікальнага парку побач з рэзідэнцыяй расійскага прэзідэнта). Судовыя цяжбы доўжыліся два гады і скончыліся перамогай адміністрацыі санаторыя "Беларусь".

62-гадовы Георгій Саракашыш адпрацаваў у санаторыі 30 гадоў. У спатканні са сваякамі арыштаваным адмовілі. Дазволілі толькі перадачу.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЭКАНОМІКА

## Дзярждоўг робіцца небяспечным

Міністр эканомікі Мікалай Снапкоў на пасяджэнні ўрада пералічыў пагрозы эканамічнай бяспекі Беларусі. На яго думку, асаблівую асцярогу выклікае "класічнае" выкарыстанне дзяржаўнай падтрымкі, калі дзеянні прадпрыемстваў накіроўваюцца не на развіццё, а на асваенне сродкаў.

*"Ужо сёння на правядзенне мадэрнізацыі дадаткова заяўлена 3,5 млрд долараў інвестыцый,* — папярэдзіў міністр. — *За кошт чаго задаволіць гэтую патрэбнасць? Калі гэта не замежныя крыніцы (прамыя замежныя інвестыцыі) або не ўнутраныя прыватныя, то патрэбны знешнія запазычанні. У выніку знешні дзяржаўны доўг можа перавысіць 17 млрд долараў. Такім чынам, суадносіны знешняга дзяржаўнага доўгу да ВУП складуць 22,7% і наблізяцца да парогавага значэння бяспекі ў 25%. Адпаведна ўзрастае і паказчык валавога знешняга доўгу".*

Снапкоў паведаміў, што, паводле разлікаў Мінэканомікі, пры такім развіцці падзей і нават пры спрыяльнай дынаміцы эканамічнага развіцця ў краінах — асноўных гандлёвых партнёрах Беларусі "валавы знешні доўг па выніках 2013 года можа скласці парадку 41,6 млрд долараў і перавысіць парогавае значэнне бяспекі (55,3% ВУП пры парогавым значэнні 55%)".

**АНОНС**

***Учора чалавецтва адзначыла Міжнародны дзень роднай мовы. Боль за стан беларускага слова, роздум аб яго лёсе і адказнасці кожнага з нас за захаванне і развіццё матчынай мовы — у лісце з-за кратаў грамадскага дзеяча, зараз палітвязня Зміцера ДАШКЕВІЧА.***

***(Гл. стар.3)***

РЭГІЁНЫ

## Прадаецца школа!

*На Брэстчыне з пачатку года прадалі дзве школы, а да канца 2013-га плануюць зачыніць яшчэ 19...*

Школы, што пайшлі з малатка, ужо даўно не выкарыстоўваліся. Пустыя будынкі школ збылі ў прыватныя рукі ў Баранавіцкім і Лунінецкім раёнах за 29 і 15 мільёнаў рублёў. Кошт залежыць ад прывабнасці аб'екта для інвестараў. Дзяржава прапаноўвае ствараць у закінутых школах вытворчасць, аб'екты гандлю, паслуг і нават перарабляць іх пад жыллё. Дарэчы, самы танны аб'ект — школа ў вёсцы Міцкевічы — прадаецца ўсяго за 100 тысяч рублёў. Можна набыць за рэшту з крамы...

Як стала вядома "Народнай Волі", да канца 2013 года на Брэстчыне зачыняць яшчэ 19 вясковых малакамплектных школ. У плане скараціць усе школы, у якіх навучаецца менш за 50 вучняў.

## Размеркаванне страшнейшае за суд?

*12 маладых спецыялістаў прыцягнуты да адказнасці з-за свайго нежадання працаваць на Пружаншчыне.*

Маладыя людзі не жадаюць адпрацоўваць абавязковае размеркаванне, нават калі справа пагражае судом. За мінулы год на Пружаншчыне пракуратура накіравала ў суд 12 іскавых заяў. Усе яны тычыліся маладых спецыялістаў, што не жадаюць заставацца ў раёне. Прычым часам "дэзерціруюць" нават тыя, хто ехаў вучыцца па мэтавым накіраванні. У суд падаюць і на тых, хто на месца размеркавання прыбыў, але працаваць не хоча — п'е ці прагульвае.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, доктор экономических наук, профессор*

## Не радостно

Поставлена задача: в 2013 году рост валового внутреннего продукта должен составить 8,5 процента. Инфляция — не выше 12 процентов.

Что же дал январь? ВВП подрос по сравнению с этим же месяцем 2012 года лишь на 3,1%, то есть в 2,7 раза ниже задания. А вот инфляция скакнула сразу на 3%, тогда как финансовым властям надо удерживать ее хотя бы в границах 1% в месяц. Продовольствие в январе подорожало на 3,1%. Если непродовольственные товары выросли в цене на 1,1%, то платные услуги подорожали на 6,1%.

По-прежнему плохо продается белорусская продукция. Ее запасы на складах за январь увеличились на 22,4% и на 1 февраля составили 27,2 трлн рублей. Соотношение запасов готовой продукции и среднемесячного объема производства достигло 68%. В производстве машин и оборудования оно составило 141%, транспортных средств — 116%.

Не лучше и дела валютные. В январе белорусские предприятия приобрели иностранной валюты на внутреннем рынке на 183,1 млн долларов больше, чем продали. Чистая покупка валюты нерезидентами составила 66,2 млн, население также купило валюты на 78,1 млн долларов больше, чем продало. В результате, несмотря на то, что 31 января Антикризисный фонд ЕврАзЭС все-таки перечислил четвертый транш кредита в размере 440 млн долларов, валютные резервы Беларуси уменьшились на 70,4 млн долларов и составили на 1 февраля 8024,6 млн долларов.

Известно, что в январе Нацбанк и Минфин производили существенные валютные выплаты на поддержку курса белорусского рубля и по внешним долгам. И только транш Антикризисного фонда спас ситуацию. По сути, денежные власти не в состоянии поддерживать валютные курсы белорусского рубля за счет естественного прироста экспортной выручки, а поддерживают рубль, как и ранее, за счет внешних заимствований. За счет их они пока рассчитываются и по прежним долгам, что и называется рефинансированием. Так, в последние месяцы Минфин активизировал выпуск валютных гособлигаций не только для юридических лиц, но и для населения.

Вывод может быть один — основа для удержания курса белорусского рубля более чем зыбкая, наш рубль в известном смысле переоценен. В том смысле, что все в большей степени напрашивается его более интенсивная девальвация. Заниженный курс рубля стимулирует импорт и сдерживает экспорт. Если сдерживать девальвацию любыми методами, то нужно помнить недавний печальный опыт. Думается, Нацбанк это понимает и не трогает ставку рефинансирования.

Если считать выплаченные в российский бюджет экспортные пошлины от продажи нефтепродуктов, а за прошлый год их выплатили 3,85 млрд долларов, то торговый баланс Беларуси остается привычно пассивным, с отрицательным сальдо. Однако Нацбанк и правительство получают поддержку от благодарного населения. Второй приход к заветной 500-долларовой зарплате вызвал не только прилив энергии населения на покупку валюты, но и интенсивное пополнение ресурсной базы белорусских банков. За прошлый год валютные депозиты физических лиц выросли более чем на 2 млрд долларов и достигли к началу текущего года 6,28 миллиарда. С 13,9 до 24,3 трлн рублей увеличились и рублевые сбережения людей. Население прочно стало донором номер один всей банковской системы.

Локомотивом белорусской экономики всегда было жилищное строительство, которое подогревалось льготными кредитами населению в рамках госпрограмм. Возможности контрабанды нефтепродуктов больше не будет. Видимо, оптимистически оценивая валютный ресурсный потенциал банковской системы, премьер-министр предложил вернуться к валютному кредитованию населения на строительство жилья, посчитав, что выполнить напряженную строительную программу без дополнительного источника финансирования будет нереально. Но этот номер не прошел, Нацбанк категорически отверг инициативу премьера.

Госкомитет по имуществу выявил перечень из 103 госпредприятий, за которые можно выручить те самые 5 млрд долларов, продав активы, как обещали, российскому капиталу. Среди них ОАО "Беларуськалий", ОАО "Нафтан", ОАО "Гродно Азот" и другие. В свое время эти известные белорусские флагманы были акционированы, а следовательно, подготовлены к продаже. Но воз и ныне там. Дело, как известно, за ценой, которую придется скинуть. Второй список из 800 предприятий подготовлен Минэкономики. В него вошли малые предприятия, предприятия с долей государства менее 50% и неплатежеспособные. Добро бы продавать низкорентабельные и убыточные предприятия. Но продать-то решили как раз вполне успешные. И не известному в мире однопрофильному западному инвестору, а всяким россиянам.

На исходе февраль. В скорости население "обрадуют" новыми прогрессивными тарифами на электроэнергию и газ. С февраля белорусы платят за электроэнергию не только дифференцированно, но и по увеличенным на 18% тарифам. Подорожала и электроэнергия для нужд отопления и горячего водоснабжения с присоединенной мощностью оборудования более 5 кВт. Многим семьям потянуть эти тарифы не хватит и 500-долларовой зарплаты. Придется отключать морозильники и вторые холодильники. Придется обзавестись регуляторами тепла для радиаторов и отключать их, уходя на работу. Приобрести пробки для сливов воды, чтобы в раковине мыть посуду...

Нам же обещали, что будем жить по средствам. Вот и наступает такое время.

ПРОЩАНИЕ

# Его жизнь...

***Ушел из жизни Василий Старовойтов, легендарный председатель колхоза «Рассвет» Кировского района Могилевской области. Он умер от инсульта. Ему шел 89-й год.***



Василий Константинович Старовойтов — дважды Герой Социалистического Труда, кавалер ордена Ленина, ордена Октябрьской революции. Почти 30 лет, с 1968-го по 1997 год, руководил колхозом "Рассвет". С началом реформ колхоз был преобразован в акционерное общество. Все это время хозяйство считалось образцово-показательным не только в Беларуси, но и на постсоветском пространстве.

Старовойтов активно участвовал в общественно-политической жизни страны, был депутатом Верховного Совета СССР, Верховного Совета БССР. Несмотря на заслуги и многочисленные государственные награды, был арестован в 1997 году по обвинению в превышении должностных полномочий, экономических преступлениях, взяточничестве и других якобы преступлениях. Правозащитники и оппозиция связывали арест Старовойтова с тем, что он публично выступил с критикой в адрес Александра Лукашенко и не поддержал его кандидатуру на президентских выборах.

Василия Константиновича приговорили к двум годам лишения свободы с отбыванием наказания в колонии строгого режима и конфискацией имущества. Судебный процесс над ним получил широкий общественный резонанс в белорусской, российской и зарубежной прессе. В заключении Старовойтов провел около полутора лет, перенеся два сердечных приступа и микроинсульт, после которого некоторое время не мог восстановиться. Освободившись, жил в деревне Мышковичи Кировского района Могилевской области. В начале 2000-х в Кировске на Аллее героев установлен бронзовый бюст легендарному руководителю.

Вот как сам Василий Константинович описывал свою жизнь.

### Путь в «начальники»

После освобождения Беларуси я закончил в Минском физкультурном институте трехмесячные курсы низшего руководящего состава. Конечно, мне, как и другим, хотелось на фронт, так как война еще продолжалась, но судьба распорядилась иначе. Первый секретарь ЦК КПБ Пантелеймон Пономаренко формировал новую партийную советскую элиту республики, потому старался оградить от смерти в бою всех, кто стал партизаном до Сталинградской битвы, когда исход войны стал очевиден.

После курсов я приехал в качестве комсорга в Быховский леспромхоз. Тогда из белорусской древесины делали шпалы для железных дорог и крепеж для донбасских шахт. Через несколько недель я убежал в Осиповичи, где велась запись в действующую армию. Поймали. Привели к секретарю райкома партии Андреенкову и вернули обратно, предварительно подобрав для меня в райкоме партии полученные через Красный Крест пиджак, штаны и пальто.

Через год меня перевели в райком комсомола. Был вторым секретарем и какое-то время даже первым.

В Быхове проработал до начала осени 1947 года. Потом был направлен в Высшую партийную школу, затем стал заведующим лекторской группой Могилевского обкома комсомола, а после этого попал в Климовичи первым секретарем райкома комсомола.

Честно говоря, никогда не видел себя кадровым военным, однако пришлось побыть и им. Борьба с последствиями культа личности началась не сразу после смерти Сталина, однако многие официальные друзья СССР мгновенно перестали ими быть. Конкретный пример — несуществующая ныне Югославия. Советские идеологические метаморфозы, мягко говоря, не понравились Иосифу Броз Тито, и он предпочел то, что у нас уже называлось сталинизмом: не только перестал быть союзником, но и подписал договоры с Турцией и Грецией. Многие в Советском Союзе восприняли это как признак приближающейся войны. Поэтому "наверху" в спешном порядке стали укреплять армию.

Так я стал замполитом, точнее младшим лейтенантом, заместителем командира мотострелковой роты по политической части в знаменитых Печах. Командир полка, комбат, ротный и многие другие офицеры были бывшими фронтовиками, а те, кого призвали из запаса, — партизанами. (Возможно, именно поэтому так стали называть всех, кого призывают на военные сборы.)

Вообще, карьерная конкуренция среди тех, кто воевал, тогда была очень большой, поэтому многие спивались.

Наверное, для солдат я был весьма неплохим замполитом. Политзанятия проводил неординарно. Очень много читал, а память у меня была хорошей всегда. Солдаты все время просили меня что-нибудь рассказать. Естественно, об этом донесли замполиту полка. В то время я как раз увлекся "Мартином Иденом" Джека Лондона, и он меня за этим занятием "накрыл". Затем был кабинет комполка. Благо, они не отличались какими-либо знаниями в области литературы. Объяснение "рассказываю о становлении в Америке дикого капитализма" вполне устроило.

Рапорты об увольнении начал писать буквально с первых дней службы, но командование их принципиально игнорировало. Тогда написал письмо лично Маленкову, как коммунист коммунисту. Приказ о моем увольнении начальство встретило с нескрываемой злобой.

После этого я вновь вернулся на "гражданку", где заведовал сельскохозяйственным отделом райкома партии. А вскоре стал секретарем райкома по зоне МТС. Мудреная должность. Там и встретил приход к власти Хрущева. Проработал почти три года.

В 1956-м меня назначили директором совхоза "Роднянский", который я возглавлял целых десять лет.

*(Окончание на 2-й стр)*

ПАЗІЦЫЯ

## Юрый ЖАДОБІН: «Настаў час — вазьмі аўтамат і стань у строй. Якая там яшчэ альтэрнатыўная служба!»

*Міністр абароны Беларусі катэгарычна супраць увядзення ў краіне альтэрнатыўнай службы, на яго думку, гэта прапанова тых, хто ненавідзіць сваю Радзіму. Праўда, генерал-лейтэнант Юрый Жадобін падкрэсліў, што гэта яго асабістае меркаванне.*

*"Я лічу гэта надуманым і непатрэбным,* — заявіў міністр на прэс-канферэнцыі. — *Няма ў менталітэце народа гэтага — "отлынить" ад войска. Гэта дзеці вярхушкі "пятай калоны" і тыя, якія выхаваны невядома як, у пачуцці нянавісці да сваёй Радзімы ці што. Вось яны лічаць Узброеныя сілы невядома чым. І вы думаеце, яны будуць дзесьці прыносіць карысць? Я думаю, што гэта проста спосаб "отлынить" ад службы".*

*"Дзяды гэтых "отлынщиков", прапагандыстаў непатрэбнага і наноснага, служылі, прадзеды служылі",* — заявіў Жадобін. *"Настаў час — вазьмі аўтамат і стань у строй, як рабілі твой бацька, дзед, прадзед. Якая там яшчэ альтэрнатыўная служба?"* — абураўся Жадобін.

Яго прамова, якая імгненна разляцелася па інтэрнэце, мела велізарны форум. Міністру абароны адразу ж нагадалі, што ўвесь цывілізаваны свет ужо даўно вызначыўся з альтэрнатыўнай ваеннай службай і не бачыць у ёй нічога дзіўнага. У краінах Еўрапейскага Саюза для праходжання альтэрнатыўнай службы неабходна проста агучыць свае перакананні. У расійскай арміі таксама ёсць элементы альтэрнатыўнай службы. Пакуль яе могуць праходзіць прадстаўнікі малых народаў. Вядома, па жаданні, прычым месца праходжання ім вызначаюць блізка да радзімы, звычайна гэтая служба праходзіць у сацыяльнай сферы — маладыя хлопцы працуюць у дамах састарэлых, бальніцах. "Калі грамадзянін Жадобін думае, што альтэрнатыўная служба — гэта фігня, — напісаў адзін з наведвальнікаў сайта tut.by, — то хай пасля работы пойдзе, напрыклад, у шпіталь МУС за ветэранамі вутку павыносіць. Вешаць локшыну на вушы з мяккага крэсла ў нас кожны чыноўнік умее. Ёсць такая прафесія — радзіму абараняць. Але ж які з прызыўніка абаронца радзімы? Па сутнасці, гэта гвалт і рабства. Хіба можа раб кагосьці абараніць? Увесь свет пайшоў па шляху прафесійнай арміі. Як аказалася, гэта значна больш эфектыўна".

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 22 ЛЮТАГА 2013 г.

СУД ДЫ СПРАВА

# Лепшая абарона — атака?

*Гісторыя пра тое, хто насамрэч наважыўся парушыць законныя грамадзянскія правы ветэрана працы, інваліда 3-й групы Ніны Мігачовай...*

У судзе Цэнтральнага раёна сталіцы разглядаецца грамадзянскі іск, пададзены Камунальным інжынірынгавым унітарным прадпрыемствам "Гардарбуд" на жыхара прыватнага дома №42 па вуліцы Ціміразева Руслана Скрыпчанку — роднага сына Ніны Віктараўны Мігачовай. Дзяржаўнае прадпрыемства ў судовым іску спрабуе давесці, што гаспадар дома сваімі скаргамі ў вышэйстаячыя арганізацыі... нашкодзіў дзелавой рэпутацыі прадпрыемства. Заўважце, не нейкай там канкрэтнай асобе "насаліў" (з імем, прозвішчам, якая б займала пэўную пасаду) а, значыцца, агулам усяму прадпрыемству нашкодзіў. Па словах юрыста "Гардарбуда" (яна прадстаўляла істца), усё выкладзенае ў скаргах адказчыка — не што іншае, як паклёп.



Як ні старалася суддзя Алена Семак высветліць у прадстаўніцы істца, што канкрэтна, якія такія словы адказчыка, напісаныя ім у скаргах, падарвалі рэпутацыю "Гардарбуда", "нанеслі шкоду гаспадарчай дзейнасці", — так нічога ўцямнага і не пачула.

Выслухаўшы бездапаможныя аргументы і сумніўныя довады, суд урэшце запатрабаваў ад "Гардарбуда" ўдакладніць патрабаванні, а таксама прадставіць арыгіналы іскавых дакументаў, а не іх копіі. Спадарыня Семак не хавала сваёй незадаволенасці, у прыватнасці, тымі паперамі, якія прынесла ў суд юрыст прадпрыемства. Выказалася, што за ўвесь час сваёй судовай практыкі ёй не даводзілася бачыць такога вэрхалу ў прадстаўленых суду паперах, як у дадзеным выпадку: скрозь адны ксеракопіі, прычым выключна тых момантаў, якія само прадпрыемства палічыла ключавымі... Карацей — другое слуханне па "абароне дзелавой рэпутацыі" прызначыла на сёння, 22 лютага...

## Без варыянтаў...

Пакуль тое "другое слуханне", еду на вуліцу Ціміразева ў пакуль яшчэ не знесены дом Мігачовай-Скрыпчанкі. Каб, значыцца, на месцы, азнаёміцца з сапраўды "ключавымі" момантамі судовай справы, якая ўчынена ў адносінах да сына Ніны Віктараўны. Чытач, пэўна, скеміў: праблема не столькі ў "абароне дзелавой рэпутацыі" дзяржпрадпрыемства, колькі ў абароне законных правоў двух грамадзян, якіх точацца выселіць з уласнага дома без паўнавартаснай кампенсацыі. Ва ўсялякім разе — так запэўніваюць самі гаспадары — іх прымусова высяляюць, выдзеліўшы двухпакаёўку ў раёне Сухарава. Але такі варыянт не задавальняе ні маці, ні сына. Чаму?..

Пра гэта і хачу пачуць з першых вуснаў. Але перад тым — перадгісторыя канфлікту. Пра яго Ніна Віктараўна распавяла ў "Народнай Волі" яшчэ летась — 21 жніўня. Артыкул называўся "Что хотят, то и творят". Вось што яна паведаміла тады (цытуецца на мове арыгінала):

*"В связи с Указом Президента Республики Беларусь от 2 февраля 2009 года №58 Мингорисполком 31 марта 2011 года принимает решение №820 "О предстоящем изъятии земельных участков..." для государственных нужд. А именно: предписано произвести снос жилых домов по ул.Тимирязева в г.Минске и поручить ГП "Гордорстрой" Мингорисполкома обеспечить имущественные права собственников, то есть полную компенсацию потерянного.*

*Казалось бы, о чем спорить? Указом главы государства урегулированы все вопросы по реализации прав собственников, в числе которых и я, Нина Викторовна Мигачева. Однако на деле это оказалось далеко не так.*

*...Меня никто не спрашивал, не уточнял, что именно положено мне как собственнику дома при его сносе и как будут компенсироваться мои имущественные права. За меня все решили чиновники из ГП "Гордорстрой". Позаседали, переговорили с чиновниками Центрального райисполкома и пришли к общему мнению, что мне будет весьма удобно жить на ул.Сухаревской в торцевой квартире, расположенной над техническим этажом. Неважно, что я инвалид 3-й группы, пользуюсь тростью и ортопедической обувью, что и подъезд, и вестибюль перед квартирой не оборудованы ни перилами, ни пандусами — добирайтесь, несчастные, как хотите.*

*Не согласившись с таким решением, я обратилась напрямую в администрацию Центрального района — думала, все же меня поймут. Но, увы! 10 января 2012 года ГП "Гордорстрой" официально согласовал свое решение с координатором сноса — руководством Центрального района г.Минска. И не ставя нас, заинтересованную семью, в известность, вынесли-таки "вердикт" (от 10.01.2012 г. №19): предоставить нам квартиру по ул.Сухаревской, 46-262.* ("Без варыянтаў, — як потым скажуць мне Ніна Віктараўна і яе сын. — Ідзі і радуйся таму, што ёсць!")

*20 февраля 2012 года я потревожила Мингорисполком жалобой на незаконное решение администрации Центрального района от 10 января 2012 года №19, указав факты неправомерности данного решения. Но 11 марта 2012 года за №1-13/225/2 и подписью заместителя главы администрации Центрального района* ***Д.В.Лещинского*** *получаю ответ: решение, мол, правомочно! Снова обращаюсь в Мингорисполком, а ответ приходит за подписью того, кто готовил данный проект решения в Центральном исполкоме...*

*Однако вроде бы есть установленное законом право обжалования решений в вышестоящий исполком, но, похоже, это не для простого человека. Трижды обращалась в прокуратуру Центрального района города Минска. В последнем ответе — совет обращаться к Президенту Республики Беларусь..."*

## Ціхай сапай...

Ну, вось і згаданы адрас — вуліца Ціміразева, дом 42. Дамок — так сабе: прыземісты, невялічкі, палова вокан забіта дошкамі. Затое падворак — дагледжаны, адразу відаць, гаспадары не якіясь абібокі, а цывілізаваныя людзі. Заходжу ў кватэру — там хоць і цеснавата, але чыста, утульна, вабна ва ўсіх адносінах. За кубачкам кавы стаўлю пытанне рубам: дык чаму вы, шаноўныя, не жадаеце падпарадкавацца гарадской уладзе? Зямлю вашу адбіраюць, і дом зносяць не без дай прычыны — для дзяржаўных патрэб... А тыя ледзь не ў адзін голас: "Што вы, міл чалавек, мы — законапаслухмяныя грамадзяне. Але закон на тое і закон, што для ўсіх роўны... А ў нашым выпадку закон для некаторых чыноўнікаў — "фількіна грамата", у лепшым выпадку — "зямля тэра інкогніта"...

Стараюся быць непрадузятым, гну сваю лінію далей: маўляў, для якіх такіх "дзяржымордаў" закон наш — нібы тое дышла? Назавіце хоць аднаго круцяля ці той "орган", які выгінае "дышла" на свой капыл... І тут жа атрымліваю порцыю "лікбеза".

"Па-першае, — утлумачвае мне Ніна Віктараўна, — на сайце таго ж Мінгарвыканкама размешчаны звесткі пра льготы для інвалідаў. Хто не ведае, можа падумаць: вось дзе сапраўдная абарона, вось дзе клопат дзяржаўны пра калек! Як бы не так... У тым пераканалася, калі наведала начальніка ўпраўлення жыллёвай палітыкі Мінгарвыканкама **А.Аўраменку.** І той быў вельмі здзіўлены, пачуўшы ад мяне, што закон, які сцвярджае мае правы як інваліда, увогуле можа існаваць у прыродзе.. Між тым у артыкуле 32 раздзела 7 Закона Рэспублікі Беларусь ад 17 ліпеня 2009 года №48-З "Аб сацыяльнай абароне інвалідаў у Рэспубліцы Беларусь" чорным па белым напісана: ***"При распределении жилых помещений местные исполнительные и распорядительные органы, иные организации учитывают потребности инвалидов в выделении им жилых помещений вблизи места их работы, места жительства их родственников, организаций, занимающихся реабилитацией инвалидов"***, ну і гэтак далей... Дык вось, да вашага ведама: усе копіі дакументаў, якія пацвярджаюць маю інваліднасць, а таксама дакументы, якія сведчаць, што мая радня пражывае паблізу мяне, былі прадстаўлены ў адміністрацыю Цэнтральнага раёна г.Мінска і ў "Гардарбуд". На ўсе звароты да ўлады, да іх сумлення я атрымліваю адказы, у якіх чыноўнікі... абыходзяць дадзены пункт. І толькі адно-адзінае ведамства — Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь — прызнае адназначна: дадзены закон дзейнічае **"на тэрыторыі ўсёй краіны і распаўсюджваецца на ўсіх інвалідаў незалежна ад групы інваліднасці і прычыны яе атрымання".** Дзякуй хоць гэтаму міністэрству!"

Веру словам Ніны Віктараўны. І ўсё ж прашу паказаць дакумент, які пацвярджае, што кватэра на Сухараўскай, якую ім навязваюць, — непрыгодная для чалавека, у якога парушаны апорна-рухальны апарат і які проста не можа падымацца па лесвіцы без болі ў нагах і пазваночніку. Вось што напісана ў лісце "Інстытута "Мінскграмадзянпраект" ад 07.09. 2012 г.:

***"На Ваше обращение по проектной документации по объекту №05.115 "Многоквартирный жилой дом со встроенно-пристроенными помещениями общественного назначения №29, №30 (по генплану) в микрорайоне "Сухарево-4" в г. Минске сообщаем:***

***в соответствии с заданием на проектирование, подъезд и квартира №262 в вышеуказанном доме не предназначены для проживания физически ослабленных лиц и инвалидов.***

***Директор О.М.Быковский".***

Прызнацца, з цяжкасцю веру ў тое, што на ўсё гэта мінгарвыканкамаўскія чыноўнікі і іх падначаленыя з "Гардарбуда" заплюшчылі вочы... Але факт застаецца фактам: 14 чэрвеня 2012 года Камунальнае інжынірынгавае ўнітарнае прадпрыемства "Гардарбуд" падало іскавую заяву ў суд Цэнтральнага раёна г.Мінска. Мэта — з дапамогай суда выселіць інваліда Ніну Віктараўну і яе сына Руслана Віктаравіча з іх уласнага дома ў сувязі з яго зносам. Такім чынам, жанчыну з яе сынам прымусова выкідваюць з 75 кв. метраў у раёне кальцавой дарогі. "Прычым, — у слязах адзначае жанчына, — без поўнай кампенсацыі за зносімую нерухомасць, без правядзення камерцыйнай ацэнкі маёмасці, зямлі, дома..."

З тае іскавай заявы "Гардарбуда" Мігачова і Скрыпчанка якраз і даведаліся, што Мінгарвыканкам — не паставіўшы іх у вядомасць, можна сказаць, ціхай сапай — яшчэ ў лютым перадаў кватэру па вул.Сухараўскай ва ўласнасць Ніны Віктараўны і Руслана. Ад такой "ласкі" ў няшчаснай жанчыны рэзка абвастрыліся хранічныя захворванні, і яна ўрэшце злегла ў бальніцу... А цяпер яшчэ і на сына наехалі, спрабуюць прыцягнуць да адказнасці. Падумаць толькі: сваімі скаргамі (а па сутнасці — пошукамі праўды і справядлівасці ў калідорах улады) ён нібыта парушыў дзелавую рэпутацыю "Гардарбуда"... А можа, гэта звычайная помста?.. Ну, каб не высоўваўся, каб іншыя не забываліся, што не варта барукацца з дзяржструктурай?.. У Мінску ж хапае яшчэ прыватнікаў нерухомасці, якіх неўзабаве папросяць у раён кальцавой аўтадарогі...

Як бы там ні было, атака распачата... "Яны накінуліся на сына, добра ўсведамляючы, што ўдар прыйдзецца па мне, бо сын для мяне — самае дарагое ў жыцці, — разважае Ніна Віктараўна. — Хочуць канчаткова расправіцца: каб і не рыпаліся, не апелявалі ні да якога закона, ні на што не прэтэндавалі... Чыноўніцкая зграя бязлітасная і смаўпэўненая таму, што адчувае ўсю бяспраўнасць простага чалавека ў гэтай краіне..."

Хацеў бы не пагадзіцца з Нінай Віктараўнай, але факты і дзеянні чыноўнікаў ад улады ніяк не стасуюцца з адваротным. Ну дзе такое бачана, каб уласнікам прыкладную ацэнку квадратных метраў іх нерухомасці прадставілі толькі на першым пасяджэнні... суда аб высяленні?! І як разумець тую першапачатковую ацэнку трох кватэр, што месцяцца пад адным дахам? Вось лічбы, якія назвала мне Ніна Віктараўна: у кватэры плошчай... 9 квадратных метраў (па сутнасці гэта адзін невялічкі пакой, без вокан і ацяплення, які быў выдзелены пры раздзеле кватэры) 1 квадратны метр ацанілі ў 5 тысяч долараў; у кватэры плошчай 32 "квадраты" — у 1770 долараў, а ў кватэры на 48 квадратных метраў — у 1100 долараў?.. Але чаму такая розніца ў коштах? Ніхто з чыноўнікаў пытанне гэтае з жыхарамі нават не абмяркоўваў. "Для абароны сваіх правоў, — кажа яна, — я звярнулася ў РУП "Мінскае гарадское агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры" з заявай аб вызначэнні рынкавага кошту маёй кватэры ў жылым блакіраваным доме па вул.Ціміразева, 42, кв. 1. Пры афармленні і аплаце паслуг гэтай арганізацыі я і не ўтойвала, што даныя мне патрэбны для прадастаўлення іх у суд. Але намеснік начальніка агенцтва спадарыня **Сафронава** запатрабавала, каб я забрала назад выплачаныя ўжо грошы. Аказваецца, для суда яны па просьбе грамадзян не робяць такой ацэнкі... Чаму, на якой падставе?" Пытанне застаецца адкрытым. Як і тое, які на самай справе аб'ект для дзяржаўных патрэб запланавана пабудаваць на месцы дома №42 і прылеглым да яго кавалку зямлі. Спачатку "дзяржаўныя патрэбы" вызначаліся "Рэканструкцыяй вул.Ціміразева на ўчастку ад вул.Сапёрау да вул.Кальварыйскай", але потым гарадскімі ўладамі былі ўнесены істотныя змены. Якія — тайна за сямю пячаткамі... І ўсё ж сям'і Мігачовай-Скрыпчанкі ўдалося выведаць гэтую тайну, раздабыць дакумент, які сведчыць пра тое, што на месцы іх дома будзе пабудаваны адміністрацыйна-гандлёвы цэнтр. Гэта відаць з выкіпіроўкі, якую атрымалі Ніна Віктараўна з сынам у Камітэце архітэктуры горадабудаўніцтва. Зразумела, ад продажу зямлі пад забудову гандлёвага цэнтра горад — па ўсім — атрымае немалыя грошы ў бюджэт. І той навар будзе больш тлустым, калі ўжо зараз выгадаць на такіх, як сям'я Мігачовай. Як? Ды вельмі проста: ацаніць іхнюю нерухомасць па мінімуме, а ўчастак зямлі прадаць таму ж забудоўшчыку-гандляру, ці там новаму ўласніку — па максімуме...

Але гэта ўжо іншая гісторыя, якая — так, верагодна, думаюць чыноўнікі — не мае нічога агульнага з лёсам нейкіх там інвалідаў...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

АФІЦЫЙНА

## *Чаму расіянам падабаюцца беларускія санаторыі?*

Дырэктар Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва **Мікалай Мазур** адказаў на гэтае пытанне: аздараўлівацца ў Беларусі расіянам значна танней, чым у сябе на радзіме.

Мікалай Мазур падчас прэс-канферэнцыі прывёў такія лічбы. У снежні 2012 года ў сярэднім цана 1 ложка-дня ў беларускіх санаторыях для іншаземцаў складала 337,4 тыс. беларускіх рублёў. А ў расійскіх санаторыях яшчэ ў жніўні мінулага года кошт 1 ложка-дня дасягаў у пераліку на беларускія рублі 837 тысяч 600 рублёў. А мы здзіўляемся, што расіяне амаль акупіравалі нашы здраўніцы...

Дарэчы, па словах Мазура, сярэдні кошт 1 ложка-дня ў санаторыях Украіны складае 627,8 тыс. беларускіх рублёў, у краінах Балтыі — 707,1 тысячы.

ТЫМ ЧАСАМ

## *Пуцёўкі для беларусаў значна не падаражэюць*

*"Паводле прагнозу, кошт пуцёвак у здраўніцы на чацвёрты квартал будзе практычна такі ж, як і на першы квартал бягучага года, — сказаў Мікалай Мазур. — На другі-трэці кварталы пуцёўкі будуць крыху даражэйшыя".*

Трэба адзначыць, што ў мінулым годзе цэны на паслугі санаторна-курортных і аздараўленчых арганізацый выраслі на 89,6 працэнта. Сярэдні кошт 1 ложка-дня па пуцёўках, набытых цэнтрам за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту і дзяржаўнага сацыяльнага страхавання, для дзяцей і дарослых склаў амаль 140 тысяч беларускіх рублёў. Што датычыцца сярэдняга кошту 1 ложка-дня па пуцёўках, што рэалізуюцца юрыдычным і фізічным асобам, то ён за 2012 год вырас на 44 працэнты да 207,4 тыс. беларускіх рублёў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

НУ І НУ!

## *Скраў у кліентаў больш за 400 мільёнаў рублёў*

Супрацоўнік банка гарадскога пасёлка Шаркоўшчына, спецыяліст па абслугоўванні фізічных асоб аддзела рознічнага бізнесу, з чэрвеня 2011 года па кастрычнік 2012 года завалодаў незапатрабаванымі банкаўскімі крэдытнымі картамі кліентаў, пасля чаго з карт-рахункаў выкраў 421 млн 676 тыс. рублёў.

У адносінах да яго распачата крымінальная справа. Кампенсавана 140 млн рублёў.

ПРОЩАНИЕ

# Его жизнь...

(Окончание. Начало на 1-й стр)



С супругой Валентиной, 2012 год.

## Рассвет карьеры

Звали председателем исполкома в Белыничи, секретарем райкома партии в Хотимск и Чаусы. Даже предлагали стать председателем Могилевского облисполкома. Не согласился. А когда умер Кирилл Прокофьевич Орловский (Герой Советского Союза и Герой Социалистического Труда), предложили возглавить знаменитый "Рассвет". Дал добро, но попросил три месяца, чтобы защитить уже практически готовую диссертацию в Институте Госплана СССР. Защититься не дал первый секретарь Могилевского обкома партии Глеб Криулин. Он банально "кинул". Меня назначили сразу же. Приехал сюда 28 января 1968 года.

Своего предшественника я очень уважаю, но не вспомнить некоторых проблем тех времен тоже не могу. Конечно, "о мертвых либо хорошо, либо ничего", но и правда здесь не помешает.

Справедливости ради нужно отметить, что Орловского воспринимали больше как заслуженного партизана и подпольщика, чем как крепкого хозяйственника. И для этого были все основания. Кирилл Прокофьевич был подпольщиком еще во времена панской Польши, воевал в Китае и Испании, партизанил в Великую Отечественную. Авторитетом он пользовался огромнейшим. Именно благодаря этому и удавалось чего-то добиться. Новаторов начальники всех уровней встречают более настороженно и враждебно, чем людей заслуженных. Как бывший чекист Орловский это понимал. К тому же по характеру он был нахрапистым и довольно умело использовал принцип "Важно не только быть, но и слыть". Но вранья о "Рассвете" тоже хватало.

Честно говоря, меня это поначалу сильно озадачило. Например, то, что Орловский свез в одно место несколько деревень, сровнял все с землей, уничтожил все кусты. И то, что повсеместно использовался в основном ручной труд. Орловский был человеком другой эпохи.

Я стал все переделывать по своему разумению. Наверху, конечно, это вряд ли кому-то могло понравиться, поэтому я заранее "подстраховался". На должность председателя "Рассвета" претендовало аж 18 человек. Я у Машерова шел под первым номером, а когда назначение состоялось, набрался наглости и попросил передать ему мою просьбу: в течение двух первых лет не присылать в хозяйство проверяющих. Дескать, если не справлюсь, приеду сам.

Справился. Когда в 1984 году мне давали вторую звезду Героя Социалистического Труда, на заседании Политбюро ЦК КПСС зачитывали соответствующую характеристику. В ней говорилось, что каждые пять лет колхоз "Рассвет" словно бы рождал в области еще один колхоз. То есть увеличение объема продукции приравнивалось к показателям среднего колхоза. За 25 лет моего председательства получалось целых пять таких колхозов. Генсек Черненко зачитывал эти слова несколько раз.

Не буду вспоминать все, что было создано за эти годы. Скажу только, что если бы кто-то из старожилов, уехавших при Орловском, вернулся обратно, он бы ничего не узнал.

С 1968-го по 1993 год в развитие хозяйства было вложено 35 миллиардов полновесных советских рублей. Если же считать в долларах, то только строительство центрального поселка Мышковичи (с настоящим Дворцом культуры) обошлось в 35 миллионов. Раньше здесь стояли избушки на курьих ножках, теперь — комфортабельные коттеджи.

Заасфальтировали все колхозные дороги, провели механизацию зернотоков, построили комбикормовый завод, открыли колбасный, швейный, сапожный цеха. Пробурили скважину и начали качать собственную минеральную воду.

Колхоз сотрудничал с одиннадцатью НИИ. Даже собственное пиво варить начали: заключили с одним оружейным институтом в Тульской области договор и купили мини-пивзавод. Раньше они ракеты делали, а по конверсии "переквалифицировались".

Если кто-то думает, что мне все время покровительствовали сверху, он глубоко ошибается. Наоборот.

## Против течения

Для начальников я всегда был очень неудобным подчиненным, слишком самостоятельным и ершистым. Это нравилось не всем. Особенно то, что в "Рассвете" люди получали самые большие в Советском Союзе зарплаты (уступали только узбекским хлопководам). Начальству это очень мозолило глаза. Даже хотели урезать зарплаты. Но не вышло.

Первым заместителем Совета министров БССР тогда был некий Мицкевич, он же руководил и всем сельским хозяйством Беларуси. В очередной раз приехал в наш Могилев, и меня почти сразу вызвали "на ковер" к первому секретарю обкома партии Криулину. В кабинете находился еще и председатель Могилевского облисполкома Прищепчик. Посадили за стол, и Криулин говорит: "Большая у вас зарплата. Это разлагающе действует на другие колхозы. Снижайте". Я сразу удивился такой постановке вопроса, а когда пришел в себя, спросил: "А что, мы у вас одолжали деньги?" Он ответил отрицательно, а сравнивать наших рабочих с американцами или французами и вовсе не стал. Крыть было нечем. Словом, урезать зарплаты я категорически отказался и пригрозил уйти с должности. Более того, пригласил его на колхозное собрание и пообещал рассказать всем о нашем разговоре. Конфликт разгорался нешуточный, и, видя это, Мицкевич приказал оставить меня в покое.

А на собрание Криулин все же отважился приехать. И выслушал там столько всего неприятного, что я думал — будет мстить, но пронесло. Это был 1971 год. Через 15 лет, сразу после XXVI съезда КПСС, провозгласившего перестройку, в своем колхозе я создал комиссию для изучения мирового опыта преобразований в сельском хозяйстве, и мы первыми заговорили про акционирование.

Как и следовало ожидать, в Минске это очень сильно не понравилось. Во время путча 1991 года к нам приехали сотрудники КГБ, но сделать ничего не смогли. Просто не успели, так как переворот провалился.

Через шесть лет у них получилось все...

Конечно, Лукашенко относился ко всему происходящему в "Рассвете" очень ревниво, даже завидовал. Совхоз "Городец" — почти отсталое хозяйство, а тут — сказка. К тому же перед первыми президентскими выборами я ему лично сказал: "Это не ваша ноша, вы ее не понесете". Наверняка запомнил.

12 октября 1997 года меня сняли с должности, а 20-го арестовали. Прямо как во времена сталинских репрессий.

Безусловно, я пережил сильнейший шок. Да и другие тоже. "Рассвет" стал одним из первых в Беларуси сельскохозяйственных ОАО, по нашему пути пошло уже 250 хозяйств. Все вернули обратно, вновь сделали из крестьян рабов.

ІНЦЫДЭНТ

# «Цесака» ў Мінску абчасалі

На мінулым тыдні ў беларускую сталіцу завітаў расійскі неанацыст Максім Марцынкевіч, больш вядомы па мянушцы "Цясак". Двойчы судзімы за злачынствы на глебе нацыяльнай нянавісці. У Мінск ён прыехаў, каб правесці платны семінар, што апошнім часам стала галоўнай крыніцай яго даходу. А на зарobленыя грошы падлячыць зрок у прыватнай клініцы "Новое зрение".

Менавіта тут, на вуліцы Клумава, дзе знаходзіцца клініка, Марцынкевіча чакала неспадзяванка. Замест сеанса лазернай карэкцыі зроку яму давялося прайсці працэдуру, так бы мовіць, прымусовай урынатэрапіі: на госця сталіцы, якога суправаджалі двое мясцовых паплечнікаў, напала група маладых людзей, узброеная вадзянымі пісталетамі, запраўленымі... мачой.

У канцы мінулага года Марцынкевіча таксама аблілі мачой, але ў Санкт-Пецярбургу. Мяркуецца, што перахапіць эстафету ў Мінску вырашылі фанаты футбольнага клуба "Партызан", вядомыя сваімі антынацысцкімі поглядамі і гатоўнасцю актыўна іх адстойваць.

На жаль, выпадак, які мог бы застацца камічным кур'ёзам, ледзь не ператварыўся ў трагедыю. Расійскі госць і яго паплечнікі адрэагавалі вельмі нервова, пусціўшы ў ход траўматычны (па іншай версіі, газавы) пісталет і нож. У выніку адзін з удзельнікаў нападу знаходзіцца ў рэанімацыі з глыбокімі нажавымі раненнямі. А Марцынкевіч з паплечнікамі ўзяты пад варту. Па факце бойкі распачата крымінальная справа — артыкул 339, ч.3 (асабліва злоснае хуліганства, здзейсненае групай асоб з выкарыстаннем зброі).

*"Справа ў тым, што тут не прынята хадзіць са зброяй. Калі ў Маскве мой набор быў бы вельмі пасрэдным, тут я практычна ўзброены да зубоў",* — такі запіс ужо пасля інцыдэнту з'явіўся ад імя Марцынкевіча на яго старонцы ў адной з сацыяльных сетак.

Адчуваецца ранейшае захапленне Марцынкевіча беларускім "парадкам". Ён далёка не першы раз прыязджае ў Мінск. У выніку адной з яго паездак неяк з'явіўся фільм, прысвечаны перавагам аўтарытарнага ладу. Бачыце, расказваў гледачам "Цясак", тут на вуліцах зусім няма смецця, бамжоў, іншародцаў, мясцовыя грамадзяне натоўпам ідуць у прыгожую бібліятэку чытаць кніжкі. А ворагі дзяржавы, якія хацелі "прадацца Захаду", сядзяць у турмах.

Лепей проста не бывае. *"У паветры больш кіслароду, у прадуктах — калорый, у бабаў большыя цыцкі, мянты мажныя, апазіцыянеры, наадварот, дробныя".* Расчулены, Марцынкевіч шмат разоў на камеру ўскінуў руку ў нацысцкім вітанні з прэзідэнцкай трыбуны на Кастрычніцкай плошчы ў бок Палаца Рэспублікі, які падаўся яму падобным да Рэйхстага. Але ж не ў далоні пляскаў, таму ніхто яго тады не затрымаў.

У прыступе любові да беларускіх улад "Цясак" разам з паплечнікамі правёў рэйд па сталічных вуліцах, каб адлавіць прыхільнікаў апазіцыі. Лавілі яны маладых людзей з бел-чырвона-белымі сцяжкамі або "Пагоняй" на вопратцы, каб паздзекавацца і павучыць жыццю. Аднак у рэшце рэшт Марцынкевічу не захацелася заставацца ў Беларусі, бо *"тут ужо няма за што змагацца, а жыццё — гэта барацьба".* Тым не менш цяпер яму, магчыма, давядзецца ў нас затрымацца на некалькі гадоў. Калі праваахоўныя органы не прымуць да ўвагі яго выключную палітычную добранадзейнасць, напрыклад.

Другі фігурант справы — нехта Сяргей Кароткіх па мянушцы "Малюта". Менавіта ён пырнуў нажом чалавека. Кароткіх — грамадзянін Беларусі, але "кар'еру" ў нацысцкім руху зрабіў у Расіі. Шэраг членаў арганізацыі "НСО-Север", з якой быў звязаны "Малюта", у 2011 годзе былі асуджаны за забойствы 27 чалавек. Сам ён меней вядомы ў медыяпрасторы, у адрозненне ад нарцысічнага "Цесака", які выкарыстоўвае любую нагоду для піяру. Але яго імя засвяцілася летась, калі шэраг расійскіх СМІ паведамілі, што паліцыя падазрае "Малюту" ў здзяйсненні выбуху на Манежнай плошчы ў Маскве. І пры гэтым ён спакойна знаходзіўся ў Мінску, гуляючы з нажом у кішэні? Дарэчы, расійскі часопіс "The New Times" пісаў пра Кароткіх, што ён нібыта *"бравіраваў сваімі сувязямі з беларускімі спецслужбамі".*

Даволі нечакана за гэтую, мякка кажучы, сумніўную кампанію ўступіўся Арцём Агафонаў, старшыня Мінскай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

"Чалавек прыехаў у краіну паправіць здароўе, — піша Агафонаў на сваёй старонцы ў Facebook. — І раптам на ганку медыцынскага цэнтра на яго нападаюць нейкія неадэкваты, паліваючы мачой. Прабачце, але мае сімпатыі не на баку неадэкватаў. Больш за тое, хутчэй за ўсё на месцы Марцынкевіча я бы сам быў у стане афекту і ўжыў да іх гвалт..."

Напэўна, Арцём Агафонаў у сваіх разважаннях зыходзіць з права на асабістую недатыкальнасць. Але ж сам "Цясак" з паплечнікамі прынцыпова такім правам пагарджаюць. Што засведчылі ў тым ліку на вуліцах беларускай сталіцы, калі здзекаваліся з маладых прыхільнікаў апазіцыі. Дык ці не грамадзянскі гэта ўчынак — паставіць нахабнікаў на месца?

**Дзмітрый ГАЛКО.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
22 ЛЮТАГА 2013 г.

ЛІСТ З-ЗА КРАТАЎ

*Зміцер ДАШКЕВІЧ*

# Гумовы тапак

— Падымайся, Дзімон! — гарланіў над вухам Ахмед, трасучы мяне за плячо.

Я ледзь расплюшчыў вочы, з яшчэ большымі высілкамі падняў галаву і глянуў на ягоны цёмна-матавы твар, які за час камернай адсідкі ніколькі не змяніў свой каўказскі колер.

— Колькі часу? — прабурчаў я, паваліўшыся назад у падушку.

— А восьмай.

— Дык што ты тлуміш мне розум?! У мяне шчэ пяць гадзін! Ты ўчора дрыхнуў увесь дзень, і я цябе не падымаў.

— Не, не ў гэтым справа — там цябе са шмоткамі замовілі.

— З якімі шмоткамі? Хто замовіў? — запытаў я, сеў, па-усходняму скруціўшы ногі, на другім паверсе трохпавярховых нараў, якія мы дзялілі з Ахмедам на дваіх: мой час быў з 13.00 да 01.00.

У гэты час адчынілася "кармушка", і "прадольны" загадаў збірацца.

— Ну што, адчальваеш ад нас? — падышоўшы да мяне, запытаўся Паша, з якім мы ледзь "выграблі" ўчора з карцёжнай заварушкі.

Я кінуў яму з усмешкаю:

— Дык колькі можна цярпець вас тут, злых зэкаў?

— Гэта так... — сказаў ён. — Мо ўсё ж заварыць што на дарожку?

— Давай, — згадзіўся я і тут жа, узгадаўшы, як робіць гарбату Паша, папярэдзіў: — Толькі не смалу!

— Лайт, Дзімон! Ты ж ведаеш, як я вару!

— Ага, ведаю, таму і кажу.

Праз 15 хвілін я быў гатовы на выхад, і мы па чарзе рабілі па два глыткі з аднаго кубка, седзячы на пашынай шконцы — ніжніх вуглавых нарах, дзе звычайна месцяцца самыя аўтарытэтныя прадстаўнікі зэкаўскай народнасці. Сам Паша, што праўда, не блатаваў, шконка перайшла да яго ад сябра — Антохі Зялёнага, з якім па волі яны разам праколвалі накрадзеныя ў метро гаманцы і разам, з адной іглы, паднялі ВІЧ. Антоха ж, тры месяцы панаводзіўшы парадак у камеры, пару дзён таму паехаў на зону.

— Як надакучылі гэтыя пераезды, Паш, каб ты ведаў!

— Я дык ведаю. Больш напружваючага няма нічога ў турме, як пастаянна матацца туды-сюды.

— Каб хаця ведаць куды, а то ж ніколі нічога не гавораць.

— А што, не сказалі табе?

— А хто скажа?

— Зараз паспрабую даведацца.

Паша рушыў да дзвярэй. Аб чым ён там гаварыў, я ў гэтым гармідары не чуў, але і па жэстах падчас ягонай размовы з "прадольным" было зразумела, што нічога ён не даможацца.

— Ды ён — ні бэ ні мэ — старшынка гэны, — злосна вымавіў Паша, сядаючы побач. — Ты вось што...

— Ну?..

— Калі прыйдзе корпусны за табою, прапар, ты ў яго запытай, а не скажа, проста адмаўляйся выходзіць. Я так заўсёды раблю.

— Відаць, так і зробім, — згадзіўся я і расшпіліў свой кешар, які перад тым паставіў тут жа, побач з нарамі. — Гэта ўсё добра, але трэба нешта і прэзентаваць табе на памяць.

— О! — абрадаваўся Паша. — Сала прэзентуй!

— Ага, дзе тут браць тое сала з гэтымі трагладытамі? — пажартаваў у адказ і я.

— На во, — працягнуў я яму невялікую кніжыцу пра Хрыста "Не проста цясляр", — не хлебам адзіным!

Паша ўзяў твор Джоша Макдаўэла, масава выдадзены яшчэ на стыку эпох, у гады нацыянальна-духоўнага адраджэння.

— Па-беларуску?

— Ну а як жа?! — усміхнуўся я. — Чытаеш на мове?

— Канешне. Я хоць з-за наркаты гэтай школу не скончыў, але ж як-ніяк беларус!

З супярэчлівым пачуццём суму і любові паглядзеў я на Паўла і адчуў, як мне нават шкада развітвацца з гэтым чалавекам — нейкая сяброўская іскра зблізіла нас сярод 50 мурашоў.

— Дзе Дашкевіч? — крыкнуў нехта ад дзвярэй.

— На месцы! — адгукнуўся я.

— Прыйшлі за табою!

Я падышоў да дзвярэй, ля якіх стаяў корпусны з маёй карткай.

— Сабраўся? Давай хуценька, і так затрымаліся!

— Паслухай, а куды мяне пераводзяць?

—Там пабачыш!

— Калі там гэткі ж бедлам, я нікуды не пайду.

Прапаршчык здзіўлена глянуў на мяне і зрабіў больш лагодны твар.

— Нармальная там камера, нармальная.

Я моўчкі глядзеў на корпуснога, разважаючы, верыць яму ці не.

— Ды нармальная, я табе гавару! — пацвердзіў ён яшчэ раз. — Пайшлі, толькі па-хуткаму.

— Ладна, зараз забяру рэчы.

— Давай, Паш, — прамовіў я, працягваючы руку, — пайду шукаць шчасця.

— Ну, трымайся там, Дзімон! Як трэба будзе што, ведаеш, як мяне знайсці.

Мы паціснулі рукі.

— Дзякуй, сябар, ведаю.

Я ўхапіў сваю торбу і пасунуўся да выхаду. З усіх бакоў загучалі галасы:

— Ну ўсё, апазіцыя, давай!

— Змітрук, сустрэнемся на барыкадах!

— Давай, Дзімон, як будзе дарога, адпішы!

— Давайце-давайце! — развітаўся я, цягнучы свае манаткі. — Як будзе, адпішу.

Падхапіўшы пад паху яшчэ і матрац, кімсьці для мяне скручаны і пакладзены ля парога, я выйшаў з камеры і гукнуў у адчыненыя дзверы:

— Жыве Беларусь!

— Жыве! Няхай жыве! Жыве вечна! — забухала навучаная доўгімі трэніроўкамі хата.

***

— Добры дзень! — павітаўся я, зацягваючы ў камеру торбу, пасля ўсіх пераходаў не такую ўжо і лёгкую, і "вату". Хата адказала цішынёй. Змясціўшы пад сцяною свае рэчы, я разагнуўся і агледзеўся. Убачанае надзвычай здзівіла мяне — каля 5,5 метраў на 2,5; уздоўж адной сцяны — вузкі стол, другой — двое двухпавярховых нараў, і бліжэй да дзвярэй санвузел з умывальнікам, літарай "Г", адгароджаны ад камеры метровай цаглянай перагародкай і нацягнутай паверх шторкай для ванны.

Прыйсці ў шок было з-за чаго — у такіх хатах я яшчэ не сядзеў. Можа, гэта іх называюць на Валадарцы "камерцыйнымі"? Але не, відаць, не камерцыйная — у тых, кажуць зэкі, ёсць душ, халадзільнік... а тут усё больш сціпла. Ды што мне тыя халадзільнікі — у тым ужо ўдача, што пашэнціла неяк вырвацца з тлуму на паўсотні чалавек, дзе сядзяць адзін на адным, дзе спаць нельга ні ўдзень, ні ўначы — апроч штук трыццаці заўсёды трымаючых варту глотак гарланяць два прымачы і адзін-два тэлікі. А тут толькі чатыры пары галасавых звязак, улічваючы мае ўласныя, і адзін тэлевізар. Два насельнікі камеры спяць, адзін сядзіць на нарах і ціхенька чытае, а блакітны экран зусім адключаны ад сеткі.

Таму адрэагаваў на маё вітанне толькі той, што чытаў, адарваўшы галаву ад газеты, пакруціў ёю пару разоў, назіраючы, як я ўкладваю рэчы, і паглыбіўся ў нешта жоўценькае зноў.

Усё гэта было дзіўнавата... Хацелася заварыць гарбаты, але грымець посудам і шукаць разеткі ў гэтым сонным царстве было няёмка. Што ж, сунуцца ў чужую хату са сваімі ўстаноўкамі ніяк не выпадала, і я вырашыў пашпацыраваць на метрах двух прасторы — ад дзвярэй да стала.

— Сядай, во, пасядзі, — паўшэптам прамовіў аматар прэсы — ужо ў гадах дзядзька, невысокага росту, увесь белы і са спужана-добразычлівым тварам.

— Ды не, дзякуй, я пахаджу троху.

Пасядзець у гэткім узбуджаным стане ў мяне не атрымалася б нават пры ўсім жаданні.

— Цябе за што арыштавалі? — яшчэ праз пару хвілін ціхенька запытаў белы дзядзька.

— За хуліганку.

— І што пагражае?

— Ужо нічога.

— Гэта як?

— Свае два ўжо ўзяў.

— Два гады... гэта таксама шмат.

— Шмат? — усміхнуўся я. — Гэта ў разоў некалькі меней, чым я чакаў пару месяцаў таму. Ды і што такое два гады? На адной назе.

Дзядзька запытальна глянуў на мяне.

— Ну, гэта ў зэкаў такі афарызм ёсць "На адной назе" — калі гаворка пра невялікі тэрмін. У нас жа звычайна як? Менш пяці не даюць, і гэта лічыцца, што ты сарваўся.

Па тым, як здзіўлена лыпаў вачыма мой суразмоўца, было абсалютна ясна, што ў камернай сістэме ён першы раз і зусім нядаўна — пакуль яшчэ ягоны мозг не мог спасцігнуць, як пяць год можна лічыць зрывам.

— Вас за што пасадзілі?

— За злоўжыванні.

— О, гэта сур'ёзнае злачынства, — сыранізаваў я. — І дзе вы злоўжывалі?

— На фабрыцы. Быў дырэктарам.

Белая галава схілілася над счэпленымі рукамі.

— А чаго ж вы жадалі, трэба было кантрыбуцыю выплачваць крышуючым структурам, лазенку тапіць, стол накрываць і гэтак далей, па патрэбах.

Дырэктар згодна затрос сівой галавой — не раз, відаць, разважаў ён над гэтай прычынай свайго тут знаходжання.

— Не для таго я жыццё пражыў, каб ім сталы накрываць. Такіх гнюсотаў я і за саветамі цярпець не мог.

— Гэта, канешне, годна, — спыніўся я і прамовіў, выдыхаючы: — За гэта можна і пасядзець.

— Э, разумнік, ты мо супакоішся? — прабухцела галава з-пад коўдры на вуглавых ніжніх нарах.

— А ў чым праблема? — здзівіўся я.

— У тым, што трэба цішэй быць!

— Дык а я што, скандалю?

Няправільная інтанацыя не спадабалася аматару дзённага адпачынку, і ён прыпадняўся на локаць.

— Ты з якой хаты?

— Восем-дзевяць

— І што ты ездзіш па турме?

— Мяне возяць — я і езджу.

Гэтае "нахабства" маё канчаткова разварушыла цела пад коўдрай — яно паднялося і села на шконцы. Цяпер яго можна было агледзець — было ў ім прыблізна цэтнера паўтара масы, зверху цела месцілася вялікая галава з вялікім носам, вялікімі вушамі, аплыўшым тварам, што цягнуў год на 45, і двайным падбародкам, які пераходзіў адразу ў тулава; да тулава мацаваліся дзве нагі-калодкі і таўшчэзныя рукі са сціснутымі кулакамі, якімі цела ўпёрлася ў нары...

— Ты, я бачу, борзы надта? — загуў нізкі голас.

Я працягваў рабіць па пары крокаў узад-уперад: апраўдвацца было неразумна, а нешта тлумачыць — бессэнсоўна. Не дачакаўшыся на рэакцыю адказу, гаспадар хаты зайшоў з іншага боку:



— У цябе, увогуле, усё роўна?

— У мяне дык роўна.

— Мо прабіць, хто ты такі, чым дыхаеш?

— Бяры прабівай, — абыякава адказаў я.

— Ты ведаеш сматрылу за корпусам?

— Я ведаю за турмою, можаш адпісаць яму па вечары.

— І адпішам, а то стрэмнаваты ты нейкі — па турме цябе носіць, тут прыпёрся кіпішыць. Ты за што сядзіш увогуле?

— Кажуць, хуліган я.

— Паслухай сюды, ты давай нармальна!

— Што значыць "нармальна"? — перапытаў я, хаця разумеў, пра што загад, — не першую сотню разоў мне яго агучвалі.

— Без гэтых тваіх "кажуць"!

— Ну, гэта дазволь мне самому вырашаць.

— Ты што, нешта не разумееш?

— Я разумею ўсё, але загадваць мне, як размаўляць, ты не будзеш.

— Так, прысядзь! — гаркнуў бас і паляпаў далонню па лаве насупраць сваіх нараў.

— Для чаго?

— Прысядзь-прысядзь, — настойваў ён.

Я падышоў да нараў і прысеў на лаву, маючы ілюзію, што, можа, седзячы атрымаецца паразумецца. І як толькі я ўсеўся, бораў схапіў з падлогі свой тапак і ўрэзаў мне ім па твары. Першае імгненне я не зразумеў нават, што гэта такое адбылося. Але тут жа падарваўся з лавы і я, і падскочыў дырэктар, які, уціснуўшыся паміж мною і гарою, якая так і засталася сядзець на нарах, запратэставаў:

— Валодзя, хлопцы, супакойцеся! Вы што?!

Па правілах жанру трэба было біць у зубы. Хаця і было ясна: калі б гэты дабраўся лапішчамі сваімі да майго кадыка, дык былі б усе шанцы з Сімонам Пётрам сустрэцца раней прызначанага тэрміну. Зрэшты, справа была не ў тым, што пачалося б потым. Таксама і не прыхільнік я небіблійнай тэорыі, якая падаецца некаторымі як біблійная, што ўсё павінны мы цярпліва зносіць. Усё-ткі трэба вялікая мудрасць, каб сарыентавацца, калі трэба, не зважаючы на абставіны, "шашки наголо!", а калі трэба сцярпець. Не скажу, што я асабліва мудры, але ў такіх выпадках, бывае, трэба і пацярпець. Тым больш, калі ўжо рабіць, дык трэба было адразу, а я пачаў злякацца, разважаць нешта, глядзець на гэтага абаронцу свайго, што махаў рукамі... Карацей, атака была завалена. І, як я пазней пераканаўся, гэта быў мой чарговы турэмны ўрок.

На верхнім паверсе нараў, над Валодзем, заварушыўся яшчэ адзін жыхар.

— Цяпер ясна, для каго раніцай месца вызвалялі.

— Во, генерал, закінулі на нашу галаву.

Генерал пачаў злазіць з ложка, і я прысеў да дырэктара — размінацца на маленечкім пятачку ўжо не было як.

Валодзя нешта яшчэ лаяўся; высокі вусаты зэк з вайсковай мянушкай пацягнуўся да санвузла курыць; дырэктарскі корпус невядома што, але вычытваў; я паглыбіўся ў роздум, як далей быць у якасна новай абстаноўцы, зусім ужо не радуючыся "элітарным" умовам утрымання.

— Паслухай, цябе як? — ізноў сцішана запытаў дырэктар, адарваўшыся ад газеты.

— Зміцер.

— Як-як?

— Зміцер. Калі цяжка, можна Дзіма.

— Не, мне не цяжка, — перайшоў ён раптам на беларускую. — Я і сам у 1994-м за Пазьняка галасаваў. Але ты... гэта... можа, па-расійску давай?

— Не, не буду, — адказаў я нават з усмешкаю, ці то сябе шкадуючы, ці то дырэктара.

— Дык будуць жа праблемы, — перасцярог прыхільнік Зянона.

— Не першы і не апошні раз.

— Ну глядзі, я б лепш па-расійску...

***

— Прагулка! — крыкнуў паставы, ляпнуўшы па дзвярах, і зазірнуў у вочка.

— Ідзём! — адказаў генерал, кінуў акурак ва ўнітаз і запытаўся: — Валодзя, ты застаешся?

— Як заўсёды.

— А ты, Францавіч?

— Не, Міхалыч, мушу зараз да следчага ісці, — адказаў дырэктар.

У мяне генерал не запытаўся нічога.

— Пойдзеш на прагулку, Зміцер? — кінуў мне Францавіч, па выразе твару якога было бачна, як няёмка яму ад гэтай варажнечы ў камеры.

— Пайду, трэба праветрыцца.

...Праз некалькі хвілін мы выходзім з хаты.

На калідоры старшына запісвае ў нататнік нумар камеры і колькі нас ідзе ды крычыць на ніжні паверх: "Пятнаццатая, два!" Мы сыходзім па лесвіцы на другі паверх, да наступнага паста, з якога галосяць тое ж: "Пятнаццатая, два!" Спускаемся яшчэ ніжэй, на першы паверх, які пяццю прыступкамі пераходзіць у нулявы падвальны, дзе чарговы дзяжурны раве таксама: "Пятнаццатая, два!", паварочваем направа, адлічваем пяць тых крокаў уніз і, пакідаючы новы корпус, уваходзім у сутарэнні старога — доўгі шырокі калідор з арачнымі столямі. Вось справа ад нас капцёрка, куды здаюць зэкі матрацы і рэчы, калі едуць на суд, мы ідзём далей; вось злева жалезныя дзверы — ці не самыя масіўныя ў турме — за імі "спецкалідор" з камерамі для асабліва небяспечных і смяротнікаў, тут жа сядзіць на зэдліку яшчэ адзін "прадольны" з нататнічкам, і, калі мы раўняемся з ім, ён занатоўвае дзве лічбы і голасна іх агучвае: "Пятнаццатая, два!" Трымаючы рукі за спінаю, рушым наперад; вось дзверы, за якімі адзін пралёт наверх вядзе да выхаду са старога корпуса на турэмны двор (там яшчэ адзін корпус і — дзверы на свабоду, яны ж — дзверы ў турму, і нам звычайна выпадае другі варыянт); і вось далей па гэтым жа баку паварот на прагулачныя дворыкі, ля якіх нас чакае апошні пост (за ім праз метраў сем канец сутарэння, у якім месціцца матрацная, дзе ў першы дзень сваёй турэмнай прапіскі кожны шчаслівчык атрымлівае "вату" і бялізну і здае ўсё гэта перад этапам на зону). І калі працэсія наша падыходзіць да гэтага пятага паставога, каторы пяты раз за апошнія пару хвілін крыкам паўтарае "Пятнаццатая, два!", паварочваем направа, трапляючы ў адну з вежаў (якраз тую, што абрынулася ў 2008-м), і адразу выходзім у бетонны лабірынт з трох бетонных калідораў і сарака бетонных камер з кратамі і нацягнутай на іх сеткай замест столі. Старшына, што працуе сёння на дворыках, запускае нас у даволі прасторную каробачку і зачыняе за намі дзверы.

Я пачаў шпацыраваць з аднога боку дворыка, генерал, таксама сам сабе, з другога.

— Дык ты што, з "дзекабрыстаў"? — запытвае ўсё ж ён праз нейкі час.

— Відаць, што з "дзекабрыстаў". Толькі з "дзекабрыстаў" 18-га, а не 19-га.

— Чаму 18-га?

— Бо накрылі за суткі.

— А, нейкія там у дварах накінуліся?

— Ну.

— Чыталі мы пра справу вашу. А з гэтым тваім, як яго...

— Эдуардам?

— Так, Эдуардам, сядзеў пару дзён на Акрэсціна.

— І як ён там быўшы?

— Нармальна, цвёрды такі хлопец. З дэсантуры толькі і ў заварушку такую — з агню ды ў полымя.

— Так, пашчасціла яму і вайсковую шыхтоўку прайсці, і зэкаўскую распачаць.

Генерал спыніўся.

— Тут ты можаш па-руску, тут ужо выпендрывацца не трэба.

Канешне, адкуль было ведаць беларускаму генералу пра беларускую шыхтоўку? Нешта я не разлічыў. Але якая розніца — разлічыў бы з шыхтоўкаю, не разлічыў бы яшчэ з чым-небудзь — усё гэта пытанне толькі часу.

— А перад кім мне выпендрывацца? Зэкі ўсе роўныя перад абліччам "правасуддзя".

— З намі можаш па-нармальнаму, — настойваў генерал. — У Беларусі дзве дзяржаўныя мовы, таму давай-ка па-руску.

— Цікава, выходзіць ва ўсіх вас, — з іроніяй прамовіў я, — канстытуцыйнае двухмоўе — гэта заўсёды канстытуцыйная падстава забараніць размаўляць па-беларуску. І кожнаму, хто ў Беларусі забараняе размаўляць па-беларуску, гэтая забарона падаецца цалкам лагічнай! Чаму ж я, спасылаючыся на двухмоўе, не затыкаю вам рот, каб вы па-руску не гаварылі, а вы лічыце законным заткнуць мне, каб я ў сябе ж дома на сваёй жа мове размаўляць не смеў?!

— Таму, што беларускую мову ніхто не разумее і ніхто на ёй не размаўляе, апроч толькі вось, — і генерал хітнуў у мой бок, — адшчапенцаў.

Гэткае вызначэнне сацыяльнага статусу і смяшыла, і абурала адначасова, прымусіўшы мяне павялічваць абароты.

— Хто гэтыя "ніхто"?! Я сяджу з зэкамі, многія з якіх добра калі школу скончылі, і яны мяне цудоўна разумеюць. А некаторыя нават пераходзяць на мову! Я з каўказцамі сяджу, якія і па-руску ледзь размаўляюць, і то яны мне кажуць: "Добра, гавары как гаварыш, калі што не панімаць, мы спрашываць". А як можна скончыць беларускую школу, беларускі ўніверсітэт, потым мо яшчэ і акадэмію якую беларускую — і не разумець беларускае ж, не ў стане і двух слоў звязаць на мове народа, які цябе выкарміў і адукацыю даў?! Гэта проста трэба даўнам быць, а не чалавекам з вышэйшай адукацыяй.

— Дык што гэта такое, твая беларуская мова? Гэта бедная, калгасная гаворка, руска-польская мяшанка.

— Калі мова першай у Еўропе Канстытуцыі і чацвёртай у свеце друкаванай Бібліі бедная такая і нікчэмная, — як на машынцы, адгрукаў кожнае слова я, — забараніце яе зусім! Стагоддзямі з захаду і ўсходу дабівалі, ды не дабілі, дык няхай свае ж манкурты дадушаць. Тады ўсё будзе зразумела. Тады, нарэшце, кожны будзе мець законнае права, пачуўшы мову "забраннага краю", загадаць любому: "Заткніся ж ты!"

Далей мы ўжо гулялі моўчкі. І гэта, відаць, было лепшае. Мяне не пакідала думка аб тым, што ўляпаўся я канкрэтна з гэтым пераводам. Тут за пару тыдняў ці звар'яцееш, ці раскруцішся, і трэцяга не дадзена. Сапраўды, хоць ты бяры ды зашывай рот да самых вушэй і так сядзі. Вось табе і гармідар на паўсотні зэкаў, горш якога, я думаў, і няма нічога. І як дзіўна ды невытлумачальна выходзіць — былы наркаман без сярэдняй адукацыі гаворыць: "Канешне, разумею, я ж — беларус!", а гэтыя, з адукацыяй і сярэдняй, і вышэйшай, будуць далдоніць: "Не, не разумею!", "Не, не магу!" ці яшчэ лепей: "Забейся!" Хаця ці так ужо невытлумачальна гэта? Вось Хрыстос кажа пра самых мудрых з народу Свайго, пра адукаваных і знатных: "Слаўлю Цябе, Ойча, Госпад неба і зямлі, што закрыў гэта перад мудрымі і прадбачлівымі і адкрыў гэта малым; так, Ойча, бо так спадабалася Табе" **(Лк.10:21).** Так, Ойча, бо так спадабалася Табе!

За перажываннямі сваімі я не асабліва заўважыў, як генерала вывелі "на кабінеты" і як потым за мною прыйшлі.

— Давай, харош тупацець тут ужо! — міралюбіва прыкрыкнуў малады старшына.

— Ага, пайшлі.

***

Вярнуўшыся ў камеру, я застаў аднаго толькі Валодзю. Моўчкі зайшоў і сеў на нары дырэктара, ды, каб нечым заняць сябе, узяў нейкую газету і пачаў чытаць словы, якія ніяк не жадалі аб'ядноўвацца ў сказы і артыкулы.

— Гарбату будзеш? — нечакана для мяне запытаў гападар.

— Можна, — згадзіўся я. Гарбаты хацелася вельмі.

Вова ўключыў імбрык — таксама дзіковінку для камернай сістэмы. Наш брат усё больш прывык да перапаленых кіпяцільнікаў. Я дастаў пластыкавы слоічак з-пад пюрэ, які служыў мне кубкам, і заварку.

— Ты што, з гэтага п'еш?

— А з чаго піць, калі ўсё забаронена? Калі ў шостым сядзеў, дык дазвалялі посуд. А цяпер такі вось маразм...

— На, будзе твой, — мой нядаўні вораг паставіў на стол пластмасавы кубак.

— Дзякуй... вялікі, — уразіўся я і ўзяў пакруціць кубак у руках — зэкі, і я сярод іх, любяць усё, што блішчыць. Асабліва калі нічога няма.

Мне захацелася чымсьці аддзячыць.

— Пачастуйся гарбаткаю з прысмакамі.

— Гэта што такое? — заглянула ў развязаны пакунак вялікая галава.

— Ну, тут чорная гарбата і розныя там кветачкі-ёлачкі, шышачкі-іголачкі, — працытаваў я аднаго расійскага рокера і патлумачыў пазіцыю: — Проста чорнай гарбаты я не асаблівы аматар, тым больш яе на чыф зэкі хутка расцягваюць.

— Дык давай, паспрабуем.

Мы насыпалі зёлак у кубкі, Валодзя заліў кіпень, пасля чаго пачаў выкладаць прадукты з тумбачкі.

— Перакусіш што?

— Ды не, не галодны, — схлусіў я.

— Зараз закінем тое-сёе, — не надаў увагі адмове маёй дзіўным чынам палагаднеўшы чалавек-гара, — во, тут матуля толькі ўчора перадала цудоўных сардэлек, маіх любімых — вараных.

Спонсар банкета ўручыў мне кавалак хлеба і сардэльку, якая амаль вокамгненна была праглынута.

— Ну, я бачу, ты зусім есці не жадаеш.

— Ага, зусім, — усміхнуўся я, узяўшы яшчэ адну сардэльку, мне працягнутую.

— Паслухай, ты не сін*і* на мяне за раніцу.

— Нічога, усякае бывае.

— Ты разумееш, дасталі мяне ўшчэнт гэтыя пракуроры, генералы, фабрыканты! Ніякай сілы няма з імі — ні паесці сабе зрабіць не могуць нічога, ні хату прыбраць. Як нянька ім!

— Што зробіш, нетурэмныя людзі.

— А мы што, нарадзіліся ў турме?

— Здаецца мне часам, — адказаў я, перажоўваючы дабаўку, — што і нарадзіліся...

— Э, кінь ты глупства! Не нараджаліся, а проста не прывыклі ні на чыіх шыях сядзець. А гэтыя без мамкінай ці жончынай спадніцы — нікуды. Дык хай выпісваюць сабе пакаёвак, каб сопліки выціралі, — усё абураўся Валодзя, але, заўважыўшы, што другая сардэлька знікла там жа, дзе і першая, працягнуў мне чарговую і кавалак хлеба з кетчупам.

— На, еш, гэтым, — ён хітнуў у бок сцяны, — я нікому не даю — абыдуцца.

— Ну, хіба апошнюю, бо *ба*кі ўжо запраўлены.

— Таму я на такім узводзе суткамі, — тлумачыў далей замучаны генераламі зэк. — А тут ты яшчэ, я з прасоння разумею праз слова. Падумаў спачатку, што ты ўвогуле глум ловіш.

— Ды не, які глум можа быць!

— Канешне, цяпер ясна... А так, я ж ніколі не сустракаў, хто на мове гаворыць. Ды і па тэліку ж нават няма такіх каналаў, каб па-беларуску былі.

— Не ведаю, я тэлік даўно выкінуў.

— На волі я і сам бы выкінуў, а тут сумнавата без яшчыка, — згадзіўся Валодзя і працягнуў сваю думку далей: — Раней неяк я з L. сядзеў, ведаеш?

— Ведаю.

— Добры хлопец такі, ні за што не пераймаўся, як за правал.

— Так, чэл адданы. А што правал, дык правал... ды толькі ці ён вінаваты ў тых правалах?

— Ага, ніхто не вінаваты, і так ужо 18 год. Во, якраз перад табою яшчэ адзін невінаваты быў — N., якога і перавялі, каб табе месца вызваліць. Ведаеш яго?

— Ведаю.

— І што скажаш пра яго?

— Нармальны чэл, калісьці актыўнічаў, потым сышоў з-за працы.

— Тут ён спакойна сядзеў, пытанняў не было — любіў падрыхнуць і перакусіць добра.

— Дык а хто ў турме не любіць перакусіць? — засмяяўся я і запытаў: — З кім яшчэ сядзеў?

— Кандыдат ваш, R., ведаеш такога?

— Ведаю. І цікава, як ён табе?

— Мне спадабаўся вельмі. Надзвычай грунтоўныя рэчы гаварыў, адукаваны, інтэлігентны — такія і павінны кіраваць краінай. Даў ён мне кантакты свае, выйду — абавязкова звяжуся. У мяне ёсць чым дапамагчы, і сябры талковыя. Харош ужо кукішы на кухні круціць. А ты падтрымліваў яго?

— Я не падтрымліваў. Не вельмі пасавала мне ягоная стратэгія выбарчая. Але, бачыш, кожны знайшоў свайго: табе гэты спадабаўся, камусьці — іншы.

Валодзя, ці то згаджаючыся, ці то разважаючы аб чым сваім, паківаў галавою.

— Пайду трошкі асвяжуся, нешта ажно ў пот кінула ад гэтай траўкі-мураўкі, — запытальна прамовіў я, калі зрабіў апошні даўкі глыток.

— Ну, гарбата ў цябе са спецэфектамі, — пацвердзіў Вова, выціраючы пот рукавом з ілба. — Давай, толькі глядзі там асцярожней — кран скручаны.

Апаласнуўшы рукі вадою, я ўзяў кавалак мыла і зірнуў у люстэрка, з якога глядзеў на мяне вораг народа з адбіткам на твары гумовага тапка 44-га памеру. Я ажно схамянуўся: няўжо так і прахадзіў паўдня?.. І ўсё з-за чаго? Здаецца нават, што з-за нічога, на роўным месцы. З-за таго толькі, што Валодзя разважаў пра мову, як пра глум над сабою. Але ці ён вінаваты ў гэтым? Гэта бяда народа нашага, і ён — толькі адзін з яго прадстаўнікоў. А хто вінаваты, дзяржтэлеканалы? Дык а з іх што спытаць? Палітыку генацыду ніхто не адмяняў, і яны — толькі бязвольныя паслугачы гэтага стратэгічнага кірунку.

"Дык дзе ж, дзе корань нацыянальнага нігілізму?" — крычала ўва мне пытанне. І тут адкрылася мне дзікая, але простая, як Божы дзень, і ўсёвытлумачаючая думка: "Корань — у нас саміх!" Так, перш за ўсё самі і вінаватыя ў бяспамяцтве гэтым. Падумаць сабе: толькі за апошні месяц, толькі ў гэтай камеры сядзелі тры барацьбіты за новае жыццё, і ні ад кога — ні ад кога з іх! — не пачуў Валодзя беларускага слова!

Ну добра, Эдуарда, з якім сядзеў генерал, я не лічу — ён толькі з войска, з якога за пару месяцаў да выбараў прыйшоў у МФ. Я і сам, калі далучыўся да руху, з паўгода пераадольваў свае комплексы і псіхалагічныя бар'еры, каб перайсці на матчыну мову. Таму зразумець я магу сябра майго, які ўжо з зоны пачаў пісаць лісты толькі па-беларуску.

А як жа з тымі трыма быць?

L. — МФавец нулявых, па-геройску бараніў Курапаты, на Акрэсціна ўсе камеры выкачаў, гутарыў па-беларуску. І што, вось ён на Валадарцы, і ён знямеў? Так, на жаль, знямеў, але толькі на беларускую мову.

N. — МФавец цяперашні, на "фронце" ахвяраваў усім — і вучобай, і стасункамі з роднымі, па-беларуску заўсёды, як рэпу грызе. І вось ён у турме — і што? Знямеў? Божа, знямеў, але таксама толькі на беларускую мову.

А гэты — кандыдат R., ледзь не самы галоўны патрыёт у нядаўнім мінулым, за якім свядомыя стаялі тысячнымі шэрагамі. І ягоныя выбары скончыліся ў камеры. Што з ім? Ён знямеў? Так. Ён знямеў па-беларуску. Як і ўвесь народ наш.

Дык а што мы патрабуем ад людзей паспалітых? Мы дамагаемся іншых законаў, канстытуцыйных фармулёвак і нават улады, прыкрываючы ўсё гэта ідэаламі адраджэння Бацькаўшчыны, тады як для адраджэння Бацькаўшчыны не трэба нічога — ні законы, ні канстытуцыя, ні нават улада. Для адраджэння Бацькаўшчыны трэба толькі адно — каб патрыёты мовы пачалі на гэтай мове размаўляць. І ўсё! І з гэтым лічыліся б і тыя, хто Беларушчыну ненавідзіць. Калі б заўтра на вуліцах нашых гарадоў хаця б кожны трэці загаварыў на роднай мове, дык "рускі са знакам якасці" сам бы перапісаў імгненна і законы, і канстытуцыю.

Аднак якой можна трызніць беларусізацыяй, калі самыя пасвячоныя адважваюцца на геройства размаўляць па-беларуску толькі ў партыйных офісах?! Дзіка? Дзіка. Дзічэй і не прыдумаць.

Але не, што гэта я брашу, даруй Божа! Прыдумаць можна і яшчэ дзічэй. Дзічэй — гэта калі эліта — людзі, якія прэтэндуюць на ролю настаўнікаў для амаль 10-мільённага народа, на ролю лідараў перамен, — баяцца, саромеюцца па-беларуску размаўляць нават у офісах партыйных. І зноўку, гаворка ж не пра тых, хто, пачуўшы мову Купалы, можа цвердзіць адно толькі: "Ненавижу! Ненавижу! Ненавижу!", гаворка пра альтэрнатыўную афіцыйнай нацыянальную і палітычную эліту! Дастаткова ўключыць Радыё Свабода, каб пераканацца, як шмат у Беларусі гэтых "сімвалаў новага жыцця", якім нават у эфіры РС сорамна пару слоў адкаменціць па-беларуску. І іх жа ніхто не прымушае ўсё жыццё сваё мяняць на беларускі лад, не. Але ж пару слоў па-беларуску на беларускае пытаннечка можна? Канешне можна! І пару слоў можна, і напоўніць усё жыццё новай зямлі сваёй, якой ты служыць бярэшся, таксама можна. Было б жаданне! І прыкладаў — тысячы! Але — не. Як жа, сорамна і ганебна!

Госпадзі, пад якім жа мы ўсе комплексам жывём — комплексам нацыянальнай непаўнавартаснасці! Мы лічым сябе, зямлю сваю, старажытную мову — усё тое, чым адарыў Ты нас, — і, адпаведна, народ свой лічым — непаўнацэннымі! Пра якія перамены можна гаварыць? Хто іх даможацца? Хто павядзе да духоўнага і нацыянальнага адраджэння? Тыя, хто лічыць сябе другасортным?

Дык як жа быць?..

Не, мы не расчаруемся ў блаславенствах Тваіх. Яны непаўнацэннымі быць не могуць. Яны цудоўныя. І не кожны, далёка не кожны народ так шмат і ў такой прыгажосці іх мае. Таму мы будзем абвяшчаць Слова. Мы не знямеем. Мы не засаромеемся. Нават калі будзе цяжка. Нават калі будзе невыносна. Мы будзем гаварыць.

Я намыліў твар і амыў яго халоднай вадой.

Будзем. Нават калі першым давядзецца атрымаць гумовым тапкам па мордзе, тым, хто ідзе за намі, будзе прасцей.

**Мазыр, ПК-20.**
**1.XI.2012.**

ДЫСКУСІЯ

# Атрымаўшы па карку, вы зразумееце...

Прачытаўшы ў "Народнай Волі" ад 5 лютага заметку Валерыя Бысава "Время донкихотов прошло...", я падумаў, што палемізаваць з ім няма аб чым. Так, нашы апазіцыйныя лідары народнымі масамі не авалодалі, партыйная сістэма ў краіне не ўмацавалася і не развіваецца, узровень даверу людзей да палітычных партый нізкі. Але ж, падумаўшы, задаў сабе некалькі пытанняў: "А чаму гэта так? Няўжо толькі партыйныя лідары ў гэтым вінаватыя? Дзе выхад з такога становішча?" Адказы на гэтыя пытанні навідавоку. Няўжо Вы, паважаны Валерый Бысаў, ветэран працы, не разумееце, чаму "они ничего не могут добиться, даже если объединятся"? Калі сапраўды не разумееце, я вам раю ўзяць у рукі бел-чырвона-белы сцяг і прыйсці з ім у Крычаве да райвыканкама. Можа, тады, атрымаўшы міліцэйскай дубінкай па карку і выплаціўшы штраф у некалькі мільёнаў рублёў, вы "просветитесь".

За апошнія амаль два дзясяткі гадоў улада пабудавала ў нашай краіне такую палітычную сістэму, што вольна дыхаць ужо немагчыма. Скажыце, спадар Валерый, як "с людьми работать каждый день, а не от выборов до выборов", калі, напрыклад, у Кобрыне грамадскага актывіста Аляксандра Меха міліцыянер затрымаў за тое, што ён размаўляў у чарзе ў паліклініцы на палітычныя тэмы — аб праблеме дзяржаўнага доўгу? А як бы вы "организовали по-настоящему людей на перемены", калі за скліканне сходаў грамадзян па месцы жыхарства ў мінулым годзе многіх грамадскіх актывістаў арыштоўвалі і судзілі як злачынцаў?

Не магу пагадзіцца з вашым тэзісам, спадар Бысаў, што "Беларуси нужна Народная партия, которая станет опорой масс. Она не допустит фальши и при подсчетах голосов и пробьется в парламент, где будет отстаивать права народа". А хіба ж дзеючыя сёння партыі не выражаюць інтарэсы народа? І дзе гарантыя, што ўлада зарэгіструе гэтую партыю? Вы ж, напэўна, ведаеце лёс партыі хрысціянскіх дэмакратаў? А хіба ж улада дазволіць гэтай партыі лічыць галасы выбаршчыкаў?

Дыктатарскія рэжымы аднолькавыя ва ўсім свеце. Яны ніколі не дазволяць актыўна функцыянаваць партыям і рухам, якія вядуць барацьбу з гэтымі рэжымамі. І наша краіна не выключэнне. Праведзеныя ўладай на народных рэферэндумах канстытуцыйныя змены практычна замацавалі пажыццёвае прэзідэнцтва аднаго чалавека. Канстытуцыйныя правы і свабоды грамадзян не забяспечваюцца заканадаўчымі актамі. У нашай краіне амаль нельга дабіцца дазволу ўлады на правядзенне мітынгу, пікета, сходу грамадзян. Абсурдна, але ж суды штрафуюць актывістаў нават за тое, што яны фатаграфуюцца на вуліцы са здымкамі сваіх асуджаных сяброў у руках. Хаця, на мой погляд, гэта здзек з Канстытуцыі Беларусі!

Наша пакаленне, спадар Бысаў, дазволіла ў сярэдзіне 1990-х гадоў змяніць Канстытуцыю і дало зялёнае святло на пабудову таго рэжыму, які зараз маем. А цяпер нашы дзеці, пляменнікі, малодшыя сябры, маладзёжныя актывісты, якім сённяшнія лідары не цікавыя, як вы пішаце, за сваё жаданне выправіць нашы з вамі памылкі кінуты ўладай за краты, штодня пераследуюцца міліцыяй, адлічваюцца з ВНУ, падпадаюць пад судзебны пераслед. Ілжэсведчанне міліцыянераў, фабрыкаванне адміністрацыйных і крымінальных спраў, дэзінфармацыя насельніцтва (можа, памятаеце, спадар Валерый, справу Някляева і міфічны аўтамабіль з выбуховымі прыладамі) — усё гэта стала нормай паводзін уладных структур у дачыненні да апазіцыі. І рэпрэсіўная палітыка ўлады да іншадумцаў будзе, як мне здаецца, толькі ўзмацняцца. Гэта яшчэ больш абцяжарыць жыццё палітычным партыям.

Партыі без падтрымкі народа — нішто. Большасць людзей нашай краіны абыякавыя і да партый, і да прэзідэнта, і да ўрада. Людская абыякавасць — гэта ўрадлівая глеба толькі для дыктатарскіх рэжымаў, а не для "донкихотов".

Што ж рабіць? Вы, спадар Бысаў, прапануеце "идти сажать овощи и картошку". А я мяркую, што і Вам, і мне даваць нейкія парады лідарам палітычных партый неэтычна. Каб гэта рабіць, трэба найперш быць сябрам якой-небудзь партыі і самому здейсніць штосьці канкрэтнае для яе. Хаця мяне і не задавальняюць дзеянні сённяшніх палітычных лідараў, іх раз'яднанасць, пошукі нейкіх здраднікаў Плошчы-2010, іх асабістыя амбіцыі, усё ж я іх паважаю і жадаю, каб яны разам з грамадскімі актывістамі надалей змагаліся за дэмакратычную Беларусь.

Калі ж Вы, спадар Бысаў, застанецеся пры сваіх ранейшых меркаваннях, тады вам сцяг у рукі! Пакажыце, як трэба "по-настоящему организовать людей на перемены".

**З павагай —**

**Міхась СПІРЫДОВІЧ, пенсіянер.**

*г.п.Івянец.*

СТОП-КАДР



**Гэты здымак прапанавала наш лепшы валанцёр Галіна Мікалаеўна Сацэвіч. За рулём трактара яе ўнук Ягор, які вельмі любіць фатаграфавацца на фоне бел-чырвона-белага сцяга, да якога ў іх сям'і ставяцца як да самай найвялікшай святыні.**

ИЗ ПИСЬМА

## ...Это не хлебная карточка

В различных изданиях появилась информация, что в Белгосуниверситете разработали и передали на согласование в Министерство образования проект изменений в закон "О пенсионном обеспечении", предусматривающих сохранение на пенсии доплат за ученую степень доктора наук и профессорскую должность. Отсутствие такой нормы в пенсионном законодательстве для кандидатов наук и доцентов, по мнению разработчиков инициативы, будет дополнительным стимулом для них готовить докторские диссертации.

Хочу поддержать эту инициативу. Однако в ней есть и обратная сторона медали, которая, на мой взгляд, нанесет непоправимый вред наиболее престижной сфере жизни государства — науке и образованию.

Пенсия, как и зарплата, должна быть заработанной. Диплом о присвоении ученой степени и аттестат о научном звании не должны быть хлебными карточками, а настоящий ученый должен находить дополнительный доход прежде всего за счет издания своих трудов, использования изобретений, то есть любая социальная надбавка должна быть оправдана и окупаема.

В условиях развала системы аттестации научных кадров в Беларуси введение такой преференции послужит не развитию науки, а лишь приведет к всплеску коррупции в государственном органе с аббревиатурой ВАК, подчиненному непосредственно президенту Беларуси. Последнее обстоятельство сделало Высшую аттестационную комиссию фактически неприкасаемой, а решения ее президиума — не подведомственными суду. Здесь, мягко говоря, есть над чем задуматься...

**Николай ШКОДА, кандидат технических наук, доцент.**

МНЕНИЕ

## Человек в клетке как символ белорусского правосудия

Меня до боли в сердце затронула небольшая заметка Алены Давыдовой "Як сабака...", опубликованная в газете "Народная Воля" от 8 февраля 2013 года. В какой стране мы живем, если отношение властей к людям, как к животным?

Суд над известным модельером Александром Варламовым, которого на костылях затолкали в клетку, как опасного зверя, всколыхнул общественность и поставил на повестку дня вопрос о том, сколько еще времени белорусская Фемида будет издеваться над людьми, которые заключены под стражу и содержатся в клетках?

Насколько мне известно, только в Беларуси на всем европейском пространстве сохраняется такая беспрецедентная мера предосторожности в судах. Россия, дальше нас отстоящая от Европы, уже давно отказалась и от применения смертной казни, и от клеток в залах суда (подсудимые отгорожены от публики пластиковой перегородкой).

Через "клетку" прошли кандидат в президенты 2006 г. Александр Козулин, кандидаты в президенты 2010 г. Андрей Санников, Николай Статкевич, политические активисты, принявшие участие в событиях на Площади 19 декабря 2010 г., известный правозащитник, будущий, как я уверен, лауреат Нобелевской премии Алесь Беляцкий. Теперь в клетке оказался представитель богемы, известный модельер Саша Варламов. У женщины-судьи не нашлось сострадания, чтобы выпустить этого человека (инвалида) из железной клетки...

Что происходит в нашей стране? Почему такая жестокая власть? Какое у нас правосудие? Людей, как зверей, держат в клетках. А другие люди — в форме — смотрят на этот "зверинец" как на вполне нормальное явление. Но ведь "сидельцы в клетке" могут быть невиновными, или их вина может быть не доказана!

На защите прав этих людей стоит Конституция, которая не позволяет считать обвиняемых (подсудимых) виновными в совершении преступления до тех пор, пока их вина не доказана судом и не подтверждена приговором суда, вступившим в законую силу (ст.26). Такой же подход закрепляется и в Уголовно-процессуальном кодексе (ст.16).

Конечно, железная клетка в суде — это позор белорусского правосудия. От этого рудимента прошлого надо избавляться и как можно скорее.

Однако претензии имеются не только к "клеткам". Представителям Фемиды, на 2/3 состоящим из судей-женщин, надо изменить отношение к людям, представшим перед судом. Они — не жертвы, обреченные на осуждение. В отношении каждого из них надо разобраться, виновен ли он на самом деле, послушать доводы не только прокурора, но и адвоката. И при любом сомнении в виновности подсудимого выносить оправдательный приговор, а не назначать минимальное (условное) наказание.

Между тем либерализма в судебной практике что-то не замечается. Как судили, так и судят. Единицы оправдательных приговоров при том, что говорят о десятках политических заключенных. А сколько безвинных жертв правосудия пишут жалобы во все инстанции о пересмотре приговоров?!

Считаю, что нам надо избавляться не только от клеток в судах, но и от обвинительного следствия и тенденциозного правосудия.

**Михаил ПАСТУХОВ, доктор юридических наук, профессор, заслуженный юрист Республики Беларусь.**

РОЗДУМ

## Эх, назвы, назвы...

У Мінск я пераехаў з Маладзечна больш за дзесяць гадоў таму. Купіў мапу і пачаў разглядаць назвы вуліц. Стаў клікаць жонку: "Слухай, ды мы, аказваецца, пераехалі з табой не ў беларускую сталіцу, а ў "філіял" Сібіры! Глядзі — Байкальская, Ангарская, Енісейская, Уральская і г.д. Шукай, пэўна, дзесьці Магаданская і Чукоцкая павінны быць". А сыну сказаў: "У якую глухамань ты мяне прывёз?"

Далей болей, а гэта вы добра ведаеце ўсе...

Напэўна, адзіны горад у нашым каралеўстве хоць крыху ў гэтым сэнсе беларускі — Маладзечна. Дзякуючы незабыўнаму Генадзю Карпенку — ён быў на пачатку 1990-х мэрам — і тагачаснаму дырэктару краязнаўчага музея Генадзю Каханоўскаму (царства ім нябеснае і людская добрая памяць!) тады з вуліц горада пачалі знікаць абрыдлыя імёны марксаў і энгельсаў, вяртацца старыя гістарычныя назвы вуліц дабальшавіцкіх часоў. Былы праспект Леніна называецца цяпер Вялікі Гасцінец, я там жыў. Савецкая вуліца зноў набыла ранейшую назву Віленская. Няма ўжо шыльд з Калініным, Дзяржынскім і іншымі "рэвалюцыянерамі", затое з'явіліся вуліцы Ф.Скарыны, Замкавая, Гарадоцкая. А яшчэ Дуніна-Марцінкевіча, Драздовіча, Ясінскага, Таўлая, Ермаловіча. Гэта тое, што я помню. Праўда, перад "Дажынкамі" вядро дзёгцю цяперашнія тамтэйшыя ўлады ўсё-такі плюхнулі: кінатэатр "Радзіма" стаў "Родина". Ну як жа, беларускай назвы, пэўна, ніхто не разумеў?

Веру: прыйдзе час — адну з цэнтральных вуліц назавуць імем Генадзя Карпенкі. Гэта будзе годна і справядліва. А на цэнтральнай плошчы, дзе дагэтуль затрымаўся Ільіч, які столькі бед натварыў на агромністым абшары былой Расійскай імперыі, павінен стаяць помнік Карпенку. Ён многа чаго зрабіў для горада і планаваў зрабіць яшчэ больш. Тысячы і тысячы людзей прыходзілі на стадыён у Маладзечне, калі Генадзь Дзмітрыевіч праводзіў там мітынг. У людзей гарэлі вочы, калі ён расказваў праўду пра камуністычны рэжым. "Мянты" тады сядзелі як мышы пад венікам, а людзі ўдзячна пляскалі ў далоні.

Дзе ж цяпер тыя людзі? Відаць, таксама сядзяць пад венікам, аглухлыя і анямелыя. Але, можа, не страцілі яшчэ здольнасці думаць, што ж згубілі яны. Усе мы з заўчаснай згубай найвыдатных сучаснікаў ахвяры існуючага рэжыму. Мо нават і мінчанам, што ходзяць ледзь не спрэс па вуліцах з нязменнымі шыльдамі-напамінкамі пра "палымяных рэвалюцыянераў", падобная "крамола" ў галаву лезе?

**Веньямін МАШКОЎ, цяпер мінчанін.**

СИТУАЦИЯ

# ...Как удельные князья

Работаю директором ООО "Союзиндустрия". Организация занимается единственным видом деятельности — промысловым рыболовством. За сезон (июнь—октябрь) отлавливаем на Вилейском водохранилище около шести тонн рыбы — судак, щука, лещ, плотва, окунь. Договор аренды части водохранилища заключен с Вилейским райисполкомом в 2009 году на 10 лет. Курирует этот вид деятельности Министерство сельского хозяйства и продовольствия. Допустимый объем вылова рыбы определен Институтом рыбного хозяйства Академии наук Республики Беларусь с целью недопущения подрыва рыбных запасов водохранилища. По договору аренды наша организация периодически производит зарыбление мальком щуки.

Мы платим налоги, аренду, люди получают зарплату, наша рыба попадает на прилавки магазинов, в систему общепита. При этом ничего не просим у государства. Да и профессия рыбака почетна и уважаема во всем мире. Это тяжелый труд, который требует большого умения. Но проблема, которая тянется с начала заключения договора аренды, — это упорное нежелание райисполкома, в частности заместителя председателя по строительству А.А.Сталыго, отвести участок земли для осуществления хозяйственной деятельности. Хотя райисполком обязан это сделать согласно Указу Президента №580 от 08.12.2005 года. Но г-н Сталыго еще в 2009 году заявил, что землю мы не получим...

Действует, как удельный князек, которому, как мне кажется, наплевать на экономическую политику страны, показатели района, указы президента. А тем временем земельная служба с особым рвением составляет протоколы якобы за захват земли.

Изуверство какое-то: сами землю не дают и сами же штрафуют. А штрафы достаточно крупные. А ведь сам по себе вопрос не стоит выеденного яйца, так как речь идет о каких-то восьми сотках. У нас там с июня по октябрь стоит вагончик на колесах, навес от дождя и лавочки возле кострища.

Для решения этого вопроса я неоднократно обращался в различные инстанции (к председателю Вилейского райисполкома Е.В.Синило, в Минский облисполком, в Администрацию Президента РБ). Как правило, мои жалобы направлялись либо обратно в райисполком (от них я даже ответов не получал), либо в земельную службу Минского облисполкома, из которой получал нелепые отписки. За все годы моих мытарств по этому вопросу со мной никто не встречался и никто не собирался эту проблему как-то решать. Причем для чиновников важно не разрешить вопрос, а своевременно дать ответ. Что в нем — никого не волнует.

В июне 2012 года я был на приеме у заместителя председателя Минского облисполкома А.В.Замжицкого. Во время приема вроде бы была надежда на разрешение проблемы, но все сошло на нет. Никто больше со мной не разговаривал, никаких ответов не дали. Прождав два месяца, опять пошел на прием к Замжицкому и с удивлением услышал, что он за два месяца поменял мнение на противоположное и все опять застопорилось. Мою очередную жалобу на неправомерность действия А.А.Сталыго из Администрации президента отправили в тот же райисполком, где она благополучно почила. Когда я поинтересовался у работника Администрации президента В.К.Евсиевича по поводу жалобы, он посоветовал сходить в Вилейский райисполком и потребовать (!) ответ. То есть никому не нужно проблему разрешить. Вот и тянется все это уже пятый (!) год. Конечно, тот же Сталыго не может официально ответить, что он не дает землю, так как не хочет, чтобы мы ловили рыбу. Он придумал, что якобы мы мешаем жителям д.Чижевичи, и везде этим козыряет. В августе 2012 года даже провели "митинг" в деревне, ходили и подписи собирали, чтобы нас закрыть. Фактически целый рабочий день там провел лично г-н Сталыго. Вот занятие, достойное должности зампредседателя райисполкома (!). Других проблем в районе нет. Мне даже интересно, чем мы мешаем жителям, — наша база располагается в полутора километрах от деревни в лесу.

Еще одно "хобби" А.Сталыго — периодически закрывать нашу организацию. Причем сначала задекларирует, а потом дает указание работникам райисполкома найти основания. Ничего не находят, но нервы не восстанавливаются. Вдруг по инициативе Сталыго райисполком принял решение рыболовным артелям запретить пользоваться лодочными моторами. Многих усилий стоило это решение отменить. Ведь без моторов лов невозможен.

Все это — свидетельство безнаказанного самоуправства чиновника, наплевательского отношения к закону, несовершенства системы управления.

**Владимир Николаевич АЛЬФЕР, директор ООО "Союзиндустрия".**

**ОТ РЕДАКЦИИ**

***Изложена позиция одной стороны. Но "Народная воля" готова предоставить свои страницы и для другой стороны. Важно — исчерпать конфликт, "разрулить" ситуацию в верном направлении.***

ФОТОФАКТ



## Студентка-пенсионерка

Не совсем обычная студентка учится на первом курсе филологического факультета Мозырского государственного педагогического университета имени И.П.Шамякина. Любовь Павловна Третьяк, будучи пенсионеркой, решила изучить все премудрости русского языка и литературы и личным примером показать, что учению все возрасты покорны.

З НАТУРЫ

# Адам Сяргеевіч і Зінка

Дзверы ў спальню адчыніліся з такім грукатам, нібы пачаўся землятрус. Адам Качынскі, які ўжо з гадзіну ляжаў без сну, ведаў: гэта жонка Зінка ідзе яго будзіць, бо такое паўтараецца кожную раніцу.

— Уставай, лайдак! Валяешся, пакуль сонца ў вочы не засвеціць. Я ўжо і свінням дала, і курам, і яблыкі апошнія сабрала, што вецер з самых верхніх галін абтрусіў. На рынак вось пайду з яблыкамі, яйкамі ды маладым кропам.

— Ну, то і ідзі... — раўнадушна адазваўся Адам. — Хіба я трымаю?

— Не-е, ты не трымаеш! Па табе — дык няхай усё пойдзе прахам. Яблыкі ў двух кашах стаяць на верандзе. Пакуль я з рынку вярнуся, каб усе парэзаў на кавалачкі, бо, як прыйду, пасушу іх. Тры мяхі ўжо насушыла і чацвёрты будзе поўны, як сённяшнія дабаўлю. Зімой, як падаражэюць, буду здаваць у магазін. Свежая капейка ў хату прыплыве.

— Ніякіх яблыкаў рэзаць не буду, — павярнуўся на бок Адам. — Я ў лес пайду.

— Па ягады, напэўна, — упікнула жонка. — Цалюткае лета, як людзі з лесу не вылазілі, ягады ды грыбы цягалі кашамі, то цябе туды было не заперці. А цяпер, як з дрэў лісце абляцела, ён у лес пацягнецца. Ну, не дурань?

— Я лета не люблю, і хадзіць туды летам — гэта насілле над сабой. Машкара там усякая, авадні... Пекла на зямлі, дый годзе.

— А цяпер рай?

— А цяпер і сапраўды рай. Я слухаю шэпт лісця пад нагамі, нібы музыку Шапэна. А глядзець, як з дрэў падаюць апошнія лісточкі... Трымаліся за галінкі з усёй моцы, і ўсё ж трэба ляцець долу... І нічога з гэтым не зробіш. Так і чалавек: як ні змагайся з хваробамі, са старасцю, а нікуды ад гэтага не дзенешся. Восеньскі лес навявае на мяне светлы смутак. А твае клопаты пра мяшкі з сушанымі яблыкамі... Гэта тое самае, калі параўноўваць сабачы брэх з вальсам Іагана Штрауса.

— Пустадомак! Стары пень, а ўсё нейкай рамантыкай жывеш. Які быў дурны ў маладосці, такі і застаўся!

Зінка ляснула дзвярыма і падалася на двор. Ён чуў, як яна ўзяла пад сцяной ровар, як прывязвала да яго кошык з яйкамі, вешала на руль цалафанавыя пакеты з антонаўскімі яблыкамі. І толькі калі за гаспадыняй грукнула брамка, устаў з ложка і пачаў апранацца. Глянуў у акно, убачыў, як у садзе гойдаюцца галіны, і ажно настрой падняўся. Адам, колькі сябе памятае, любіць вецер, асабліва восеньскі вецер, які вольна гуляе ў пустым полі, лашчыць, нібы супакойваючы, вершаліны дрэў у лесе.

Ён выпіў кубачак гарбаты з чорным хлебам, апрануў куртку і пайшоў у напрамку блізкага лесу. Ішоў і радаваўся жыццю. У свае 73 гады рэдка наведваецца ў паліклініку, не страціў цікавасці да навакольнага свету, рад усяму, што бачаць вочы. Ён усё жыццё працаваў доктарам у невялікім гарадку, на пенсію пайшоў зусім нядаўна, бо тут няма каму лячыць людзей. А па натуры Адам Сяргеевіч лірык, паэт. З юнацтва піша вершы, але ніколі нідзе іх не друкаваў і нікому не паказваў. Праўда, аднойчы адважыўся прачытаць адзін верш пра каханне сваёй Зінцы. Яна слухала, як кажуць, на палову вуха, а потым сказала:

— І калі ты ўжо паразумнееш?

Адбіла ахвоту каму-небудзь чытаць, але пісаць не пераставаў.

Ён паволі ішоў па вузенькай дарожцы, зарослай травой і хмызняком. Па мелкай каляіне яшчэ можна было пазнаць, што некалі тут ездзілі на падводах да бліжэйшай вёскі. Цяпер там жыве толькі адна бабулька...

Успамінаў сваё жыццё, жонку. Яна амаль чатыры дзесяцігоддзі адпрацавала настаўніцай, і ўсе ў гарадку звалі яе не інакш, як Зінаіда Іванаўна. А цяпер на старасці гадоў стала проста Зінкай. Штодзень сядзіць на рынку з кабетамі, у якіх зусім маленькая пенсія, да прыкладу, былымі прыбіральшчыцамі, бальнічнымі санітаркамі. Яны ўдовы і ледзь зводзяць канцы з канцамі. А ў іхняй жа сям'і дзве пенсіі, ды яшчэ Адам Сяргеевіч добра зарабляе сталярскай справай, бо яго крэслы ручной работы карыстаюцца вялікім попытам. Але жонцы ўсё мала, усё не гэтак і не так. Сквапнасць раз'ядае яе душу, як іржа жалеза. Адзін сын жыве ў Мінску, працуе ў замежнай фірме, добра зарабляе. Мае сям'ю, кватэру. Другі ўжо шмат гадоў у Англіі. Таму дапамагаць не трэба. Ды і гэтаму не трэба, але ж Зінка ўсё збірае грошы, клапоціцца:

— Унук неўзабаве скончыць універсітэт, а кватэры не мае. Яму трэба памагаць, — не раз папракала Адама.

— Ты паглядзі на сябе збоку: ходзіш, нібы жабрачка. Купіла б сабе новае паліто, боты. Іншы раз мне сорамна прызнавацца, што я цябе ведаю, не толькі, што ты мая жонка.

— То якой халеры ты на мне жаніўся!

— Бо ты ж такой не была. Памятаеш, як хораша грала на гітары, а як спявала! На сцэне глядзелася лепш, чым якая прафесійная артыстка. А цяпер, калі я аднойчы ўзяў гітару, зайграў нашу некалі любімую мелодыю і папрасіў: "Зіначка, паспявай", — то што ты адказала? Памятаеш?

— Не...

— Можа, і не, а я добра памятаю. Ты сказала: "Каб на тваіх хаўтурах заспявалі! У мяне работы непачаты край, а яму спяваць трэба..."

...Яны вярнуліся дадому ў адзін і той жа час. Не паспеў Адам Сяргеевіч зачыніць брамку, як падкаціла на ровары Зінка.

— Ну, як гандаль? — спытаў з усмешкай.

— Маўчы, не чапай мяне! Гультай, ён яшчэ пытае! Яблыкаў усіх не прадала, яйкі давялося аддаць танней, бо іх было процьма. Ну, а што ж ты з лесу прынёс? — пакпіла.

— Добры настрой, Зіначка, узнёсласць і радасць ад таго, што жыву на свеце. А гэта не купіш ні за якія грошы...

Так яны і пайшлі ў хату: яна са злосцю, а ён з лагодай...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

**P.S. Па пэўных прычынах імёны людзей зменены.**

ПУЛЬС ПЛАНЕТЫ

## Изъята рекордная партия фальшивых евро

Португальская полиция сообщает об изъятии рекордной в истории страны партии фальшивых банкнот евро на общую сумму в 380 тыс. евро (500 тыс. долларов).

Это уже вторая операция по изъятию контрафактных банкнот евро, проводившаяся в Порту в этом месяце. Полицейские отмечают, что укрепление евро в качестве международной валюты делает его все более привлекательным для группировок фальшивомонетчиков.

## Новый рекорд холода в Сибири: минус 71 градус

На полюсе холода в Оймяконе градусник в начале недели показывал минус 71 градус. Это самая низкая температура, когда-либо измеренная в населенном пункте. До этого официальный температурный рекорд Оймякона, достигнутый в 1933 году, составлял минус 68 градусов.

## Президента Боливии отказались пустить к Уго Чавесу

Лечащие врачи президента Венесуэлы Уго Чавеса не позволили навестить его в больнице президенту Боливии Эво Моралесу. Об этом сообщает Agence France-Presse со ссылкой на заявление самого Моралеса.

Как рассказал боливийский президент, врачи объяснили ему невозможность встречи с Чавесом тем, что он нуждается в полном покое и постоянном медицинском наблюдении. Моралес также заявил, что встретился с семьей президента Венесуэлы, и отметил воодушевленное настроение близких Чавеса.

## Крупнейшая премия

Интернет-предприниматели Юрий Мильнер, Марк Цукерберг, Сергей Брин и его супруга Энн Вожицки объявили о создании крупнейшей в мире премии в области биомедицины и наук о жизни "Breakthrough Prize". Имена первых 11 лауреатов, каждый из которых получит три миллиона долларов, приводит в своем сообщении издание The Guardian.

## Чьи подержанные автомобили лучше?

Подержанные автомобили, собранные в Германии, наиболее надежны и имеют наименьшее количество технических дефектов. К такому выводу приходит немецкая служба технического надзора Dekra в отчете, представленном в Штутгарте. Наивысшие оценки получили Audi, BMW и Ford.

Если в 2012 году конкуренты из Японии еще опережали немцев в сегменте автомобилей малого класса, то, согласно статистике, представленной в нынешнем отчете, подержанные японские машины и модели, собранные в Швеции, лидируют лишь среди автомобилей с особенно большим километражем.

## Сталин возвращается в Грузию

После прихода к власти коалиции "Грузинская мечта" во главе с Бидзиной Иванишвили в нескольких грузинских деревнях восстановлены бюсты и памятники Сталину, которые были снесены во время правления партии Саакашвили.

Однако три таких памятника после восстановления были ночью облиты краской неизвестными лицами.

ПАЗІЦЫЯ




## Як апранацца дэпутату?

У Вярхоўнай Радзе Украіны, дзе дэпутаты два тыдні не маглі пачаць работу, бо апазіцыя заблакіравала трыбуну, новы скандал. Партыя рэгіёнаў патрабуе, каб дэпутаты прыходзілі на работу ў дзелавых касцюмах, а не ў вышыванках, як гэта робяць некаторыя народныя абраннікі. Аднак апазіцыянеры пераапранацца на спяшаюцца. *"Мы носім нацыянальную ўкраінскую вопратку і гэтым хочам паказаць, што ў парламенце ёсць каму змагацца за нацыянальныя інтарэсы краіны",* — кажа дэпутат фракцыі "Свабода" **Юрый Сірацюк.**

## Будучыня «Усходняга партнёрства»

*"Усходняе партнёрства" ў гэтым годзе можа дасягнуць значнага поспеху, — заявіў міністр замежных спраў Польшчы* ***Радаслаў Сікорскі.***

Ён сказаў, што "бюджэт праграмы складае паўтара мільярда еўра. Праграма дасягне поспеху, калі ў гэтым годзе будзе падпісана дамова аб асацыяцыі з Украінай і завершацца перамовы з трыма наступнымі дзяржавамі".

Краінамі, якія завяршаюць перамовы з Еўрасаюзам, з'яўляюцца Грузія, Малдова і Арменія. Аднак дамовы аб асацыяцыі будуць падпісаны толькі з тымі краінамі, якія паважаюць прынцыпы прававой дзяржавы, — заначыў міністр замежных спраў Швецыі **Карл Більд.** Ён заклікаў Кіеў неадкладна вызваліць былога прэм'ера Юлію Цімашэнка.

Такія заявы зроблены на сустрэчы 12 міністраў замежных спраў з краін Цэнтральнай і Паўночнай Еўропы. Яны абмяркоўвалі будучыню "Усходняга партнёрства".

## Урад у адстаўку з-за разгону пратэстаў

Прэм'ер-міністр Балгарыі **Бойка Барысаў** абвясціў аб адстаўцы ўрада пасля разгону масавых пратэстаў супраць высокіх коштаў на электраэнергію і мер па дзяржаўнай эканоміі. Ад пачатку тыдня па ўсёй краіне праходзяць масавыя дэманстрацыі пратэсту, у якіх удзельнічаюць дзясяткі тысяч грамадзян. Падчас сутыкненняў з паліцыяй у Сафіі пацярпелі 25 чалавек.

"Я не буду ўдзельнічаць ва ўрадзе, пры якім паліцыя збівае людзей", — заявіў Барысаў у сваім выступленні ў парламенце.

Незадаволенасць жыхароў Балгарыі абумоўлена ростам цэн на энергарэсурсы, манапалізмам пастаўшчыкоў электраэнергіі, нізкім узроўнем жыцця і карупцыяй.

## Сусветны дзень сацыяльнай справядлівасці

У свеце адзначаны Сусветны дзень сацыяльнай справядлівасці.

Ён быў устаноўлены Генеральнай Асамблеяй ААН і адзначаецца штогод 20 лютага. Ідэяй дня з'яўляецца садзейнічанне намаганням па скарачэнні беднасці, сацыяльнай ізаляцыі і беспрацоўя.

## Кітаец абяцае кватэру таму, хто знойдзе яго сабаку

У кітайскай правінцыі Сычуань уладальнік зніклага сабакі абяцае асобе, якая яго знойдзе, вялікую ўзнагароду — кватэру. Пра гэта піша газета "South Morning China Post". Сабака знік 8 лютага непадалёк ад дома. Першыя аб'явы пра пошук не далі ніякага водгуку. Але з нядзелі, калі ўладальнік напісаў, што таму, хто прывядзе сабаку, ён аддасць кватэру, у інтэрнэце пачалася гарачая дыскусія. Некаторыя напісалі, што яны кідаюць працу і ідуць шукаць сабаку. Да панядзелка з'явілася больш за паўмільёна водгукаў па гэтай справе, але сабака не знайшоўся.

Спадар Х'сье, які ўсё жыццё працаваў у СМІ, а праз 20 дзён ідзе на пенсію, адзначае, што для яго сабака з'яўляецца членам сям'і, за якога не шкада аддаць кватэру.

ИЗ ЖИЗНИ ДИКТАТОРОВ

## Предстал перед Международным уголовным судом

В Международном уголовном суде (МУС) начали судить узурпатора, экс-президента республики Кот-д'вуар **Лорана Гбагбо.**

Напомним, после выборов президента в декабре 2010 года Гбагбо отказался передавать власть победившему кандидату Алассану Уаттаре, что привело к вооруженному конфликту между сторонниками двух политиков. В апреле 2011 года президент был вынужден сдаться после того, как французские танки расчистили путь к его резиденции и окружили бункер, где укрывался вместе с семьей опальный президент. Гбагбо доставили в Гаагу в ноябре 2011 года, и с тех пор заседания суда неоднократно переносились.

По подсчетам Национальной следственной комиссии Кот-д'Ивуара, жертвами конфликта стали более 3,2 тысячи человек.

"Бывший президент Кот-д'Ивуара Лоран Гбагбо ответственен за смерть не менее 166 человек", — заявила прокурор Международного уголовного суда Фату Бенсуда на стартовавших в Гааге слушаниях. По словам Бенсуды, прокуратура МУС также считает Гбагбо ответственным за изнасилования не менее 34 женщин, нанесение серьезных телесных повреждений 94 и преследовании как минимум 294 человек.

НА СВАЕ ВОЧЫ

## Марыя РУСАК: «Вучыцца ў Прынстане прэстыжна!»

*Беларуска Марыя Русак расказала, як атрымала стыпендыю ў адной з самых лепшых ВНУ свету — Прынстанскім універсітэце, пра жыццё і вучобу ў гэтай прэстыжнай навучальнай установе, а таксама пра тое, чаму вярнулася на пэўны час дадому.*





Прынстан — адзін з найстарэйшых, самых вядомых і прэстыжных універсітэтаў ЗША. Гэта прыватны ўніверсітэт. Ён мае бюджэт на год, які роўны трэцяй частцы валавога ўнутранага прадукту Беларусі, але ў адрозненне ад універсітэтаў у іншых месцах ЗША захоўвае адчуванне гісторыі і часу. Гатычная архітэктура і неабмежаваныя магчымасці — тое, што ў першую чаргу асацыіруецца ў мяне з ім.

Заснаваны ў 1746 годзе як Каледж Нью-Джэрсі, універсітэт у свой час быў сведкам гістарычных падзей Амерыканскай рэвалюцыі, а таксама з'яўляецца Альма-матэр выбітных людзей XX стагоддзя, якія ўплывалі на ход гісторыі.

Гэтыя факты мне былі невядомыя, калі я раздумвала пра амерыканскія ўніверсітэты. Прынстанскі ўніверсітэт я выключыла са спісу адразу — не жадала вучыцца ў школе з разбэшчанымі дзецьмі мільянераў, шэйхаў і алігархаў. Гэта і блізка не было маёй марай, але з маімі адзнакамі мне ўсё ж такі параілі звярнуць увагу на пазітыўныя бакі адукацыйных праграм і падаць дакументы.

### Як трапіць?

У ЗША дакументы ва ўніверсітэты падаюцца праз Common Application — анлайн-сістэму з фіксаваным наборам неабходных папер: некалькі эсэ, матывацыйны ліст — Personal Statement, адзнакі, дзве рэкамендацыі і падчас інтэрв'ю. У прынцыпе, было ўсё роўна — адным эсэ больш, адным менш, і я вырашыла паспрабаваць. Сябры кпілі і жартавалі, бацькі здзіўляліся, адкуль такія амбіцыі, інтэрв'ю прайшло дрэнна, і я нават забылася пра гэта. Была вельмі шчаслівая, калі прыйшоў ліст з канадскага ўнівера, а калі сталі прыходзіць усе астатнія адказы — здзівілася яшчэ больш. Пасля доўгіх разваг усё ж такі падумала: чаму б не?

Асабліва калі прапануюць пакрыць усе выдаткі, а гэта 55 тысяч долараў на год плюс усе выдаткі на падарожжа, кішэнныя грошы і іншае. Цікава, што ўсё гэта Прынстан дае проста так — я не павінна ні адпрацоўваць, ні аддаваць грошы. Гэта своеасаблівая дабрачыннасць: універсітэт спадзяецца, што пасля такіх інвестыцый і ладу жыцця я сама пажадаю застацца ў ЗША, працаваць на краіну і ў будучым ахвярую грошы ўніверсітэту. Большасць людзей робіць менавіта так.

Беларусам у Прынстан трапіць нашмат лягчэй, чым самім амерыканцам. У гэтым навучальным годзе прынялі толькі 7 прэтэндэнтаў, але Беларусь для іх — экзотыка. Да таго ж прыгожа выглядае на статыстыцы. На жаль, ва ўсім універсітэце я адзіная беларуска і, напэўна, першая, але спадзяюся, што не апошняя. Таму беларусам, якія там жадаюць вучыцца, я параіла б уважліва чытаць інструкцыі на сайце і вучыць англійскую мову — немагчымага не існуе.

Замежнікі складаюць недзе каля 10 працэнтаў ад усіх студэнтаў. Багата студэнтаў прыязджае з краін Азіі, і ўвогуле ва ўніверсітэце шмат амерыканцаў-азіятаў. Яны вельмі разумныя і больш матываваныя на дасягненне мэты, чым іншыя амерыканцы. Таму, напэўна, яны будуць складаць большасць ва ўніверсітэце. Арабы і афраамерыканцы ёсць, але іх няшмат — універсітэцкая адукацыя ў ЗША вельмі моцна звязана са школьнай, якая, на жаль, не з'яўляецца ўніфікавана-ўніверсальнай. Таму, калі ты не навучаўся ў добрай прыватнай школе, у цябе вельмі мала шанцаў трапіць у добры ўніверсітэт.

### Life Style

Стыль жыцця, канешне, вельмі адрозніваецца ад таго, як жыве беларускае студэнцтва. Жыццё вельмі камфортнае, як на курорце, — і басейн, і любыя віды спорту, і тэатр, і кіно... Часта забываешся на тое, што адбываецца па-за межамі "памаранчавай бурбалкі", як мы клічам наш кампус.

Усе студэнты незалежна ад таго, адкуль яны, першыя два гады павінны жыць у кампусе. Можаш нават выбіраць, з кім і дзе. Усе харчуюцца ў "сталоўках", іх некалькі. Па якасці ежы яны больш нагадваюць рэстараны, чым нашы студэнцкія сталоўкі. Апошнія два гады (увесь тэрмін навучання — 4 гады) вырашаеш сам, дзе і як жыць і харчавацца, але большасць застаецца ў кампусе. Частка выбірае магчымасць далучыцца да аднаго з клубаў, якія нагадваюць англійскія клубы джэнтльменаў пачатку XX стагоддзя. Між іншым, дзяўчаты ва ўніверсітэце фармальна з'явіліся толькі ў 1969-м, а рэальна — у 1980-х гадах.

Навучанне ў Прынстане ўражвае якасцю адукацыі і ўзроўнем спаборніцтва. Прафесарскі склад — адзін з самых лепшых у свеце. Кожны з'яўляецца зоркай у сваёй галіне. Вывучаючы архітэктуру, я мела магчымасць удзельнічаць у семінарах выкладчыкаў, артыкулы якіх іншыя чытаюць толькі ў навуковых часопісах. Таксама выступаюць вельмі цікавыя лектары, якіх запрашаюць на адкрытыя імпрэзы. У мяне, напрыклад, быў ланч з экс-прэм'ерам Італіі Джуліяна Амата, прыватная канферэнцыя з прэзідэнтам Грузіі Міхаілам Саакашвілі.

Прадметаў на семестр — 4 ці 5, па 6 гадзін на кожны. Але вельмі вялікую частку займае хатняя праца — яе неабходна выконваць. На тыдзень па адным прадмеце больш за 300 старонак аналітычных тэкстаў, якія неабходна прачытаць, зразумець і прааналізаваць. Займае шмат часу, асабліва таму, што вучоба вельмі канкурэнтная, сістэма адзнак — адна з самых жорсткіх. Не больш за 30% класа можа атрымаць вышэйшы бал — A.

Аднак студэнты не толькі вучацца, але і адпачываюць. Вечарыны ва ўніверсітэце вельмі падобныя на тое, што паказваюць у кіно. І чырвоныя пластыкавыя кубкі, і натоўп людзей, і шмат алкаголю. П'юць амерыканскія студэнты не менш за беларускіх і з не меншым імпэтам. Афіцыйна да 21 года алкаголь ужываць нельга, а дома бацькі не прапаноўваюць, таму, калі прыязджаюць ва ўнівер, п'юць празмерна і з наступствамі.

### Амерыканцы

Увогуле, амерыканцы не так і адрозніваюцца ад беларусаў. Зразумела, што ўніверсітэт не з'яўляецца рэпрэзентатыўным адлюстраваннем амерыканскага грамадства. І ў нас, і там большасць людзей не цікавяцца міжнароднай палітыкай, слаба ведаюць геаграфію і сусветную гісторыю. Але і ў нас, і там ёсць вельмі дасведчаныя людзі, якія цікавяцца ўсім і арыентуюцца ў аналітычнай прасторы. Я часам сустракаю людзей, якія дакладна ведаюць пра Беларусь, распытваюць пра нашу палітыку, эканоміку.

Еўропа меншая, і тут ёсць больш шанцаў сустрэць людзей, якія адрозніваюцца ад цябе ў культурна-гістарычным кантэксце. Мне персанальна бліжэй еўрапейская ментальнасць. Аднак самі амерыканцы да замежнікаў ставяцца вельмі добра ці добра-нейтральна. Твая краіна іх цікавіць першыя 10 хвілін размовы, а пасля ім усё роўна, які ў цябе акцэнт і якіх палітычных поглядаў ты прытрымліваешся. Краіна эмігрантаў — залічваючы да сваіх, яны пасля не адрозніваюць цябе ніякім чынам. Лічу, што гэта рыса, якой не хапае еўрапейцам.

### Вяртацца трэба

Паколькі я не была ў Беларусі чатыры гады, я вырашыла, што прыйшоў час вярнуцца на Радзіму на нейкі час. На гэты адукацыйны год я знаходжуся ў Беларусі, удзельнічаю ў розных адукацыйных і грамадскіх праектах і семінарах, на якія раней не было часу і магчымасцяў. Вельмі шмат што змянілася ў Беларусі ў пазітыўны бок за гэты час, асабліва ў адукацыйнай і інфармацыйнай прасторы. Ёсць магчымасць займацца цікавымі рэчамі. Галоўнае, каб была ідэя і матывацыя, а шляхі вырашэння можна знайсці. І іх нашмат больш, чым раней.

Я лічу, што адукацыя павінна быць міжнароднай, але ў эміграцыю не веру — таму вельмі хацелася б вярнуцца ў Беларусь пасля атрымання дыплома. Зараз я рыхтую глебу для далейшых праектаў і спадзяюся, што здолею ўжыць свой досвед адукацыі ў лепшым універсітэце ў нас дома, у Беларусі.

**Марыя РУСАК.**

### АД РЭДАКЦЫІ

Зараз Марыя Русак займаецца цікавым інтэрнэт-праектам. Найбуйнейшая інтэлектуальная супольнасць свету TED робіць першыя крокі ў Беларусі. Гэта праект, які дае магчымасць, не сыходзячы з працоўнага месца, атрымаць самую лепшую альтэрнатыўную адукацыю ў свеце, натхніцца суперідэямі і падзяліцца сваімі. На працягу 22 гадоў TED-канферэнцыі былі эксклюзіўнымі форумамі. Самыя паспяховыя людзі свету прыходзілі, каб паслухаць прамову Эла Гора аб змене клімату і даклад Біла Гейтса аб камп'ютарных вылічэннях. Арганізатары TED асабіста запрашалі самых уплывовых людзей Зямлі, і з цягам часу канферэнцыі сталі найбольш прэстыжнай тусоўкай інтэлектуалаў. Такі тып элітарных тусовак працягваўся аж да 2006 года, калі праект TED быў распачаты ў інтэрнэце і хутка стаў "сеткавым вірусам".

Таксама TED запусціў The TED Open Translation Project — амбіцыйны праект для велізарнай аўдыторыі людзей па ўсім свеце, якія не размаўляць на англійскай мове. Зараз ён працуе на 97 мовах, у ліку якіх і беларуская.

У СОСЕДЕЙ

## Польша на пороге иммиграционного бума

Если отъехать от исторического центра Варшавы на один-два километра, нельзя не заметить, как меняется польская столица. Рынок Бакаларска — гигантский центр продажи одежды, электротоваров и еды, где поляки практически не торгуют. Здесь отовсюду слышна речь и музыка приезжих из Вьетнама, Болгарии, Турции, Нигерии, Китая, Украины и Беларуси.

Еще недавно такое трудно было себе представить. А за последние два года количество заявок на рабочие визы в Польше удвоилось.

Цифры европейской статистики говорят, что только 0,1% жителей Польши родились за ее пределами. Это самый низкий показатель в ЕС. До Второй мировой войны четверть польского населения составляли евреи, немцы и украинцы. Но к 1947 году практически никого из них в стране не осталось.

В то время как развитие экономики Европы замедляется, в Польше дела налаживаются. Она единственная из всех стран ЕС избежала кризиса 2008—2009 годов и продолжает плыть против течения. В то же время в стране ощущается нехватка рабочих рук, вызванная массовым отъездом граждан Польши за рубеж. Министр по делам иностранцев Рафал Рогала, похоже, хорошо знаком с этими тенденциями.

*"Я горжусь тем, что Польша стала пунктом назначения экономических мигрантов. Мы их прекрасно понимаем, потому что до сих пор сами были экономическими мигрантами,* — говорит он. — *В глубине души мы открыты иностранцам. Мы понимаем желание улучшить свою долю и построить новую жизнь вдали от родины. Сейчас нашему народу нужно привыкнуть к тому, что в нашу страну приезжает много иностранцев, которые хотят в ней жить и работать".*

Но Рогала понимает, что в нынешних экономических обстоятельствах контролировать иммиграцию может быть непросто. Он разделяет опасения политиков из Западной Европы, чьи страны уже пережили приток приезжих. Он явно не горит ни желанием копировать, к примеру, британскую модель, ни превращать Польшу в мультикультурную страну. "И канцлер Меркель, и президент Саркози признали, что мультикультурность не выдержала испытания реальной жизнью", — говорит Рогала.

На другом конце иммиграционного спектра в Польше — люди, далекие от реалий торговли одеждой на варшавских рынках.

Во Вроцлаве, четвертом по величине городе Польши, на рождественскую вечеринку в городской торгово-промышленной палате собрались сотни выходцев из богатейших стран мира.

Американские банкиры общаются с пиарщиками из Германии и датскими главами софтверных компаний — все они недавно переехали в Польшу.

Пол Норрис приехал из английского графства Саррей четыре месяца назад вместе с женой-француженкой Катериной и двумя детьми. Он возглавляет компьютерную службу местного отделения банка Credit Suisse. Его дети учат польский в местной международной школе. Катерина еще привыкает к особенностям польской жизни, но тоже рада переезду.

*"Я встретила много замечательных людей,* — говорит она. — *Поначалу мне казалось, что в магазинах поляки ведут себя грубовато и не особо жалуют иностранцев. Но, думаю, они просто не любят, когда лезут в их жизнь. Их просто надо научиться понимать. Я много читала об истории Польши. Эта страна была частью многих империй, ее рвали на части. Не удивительно, что старшее поколение немного подозрительное".*

Пол и Катерина обсуждают, сколько времени провести в Польше, не исключая при этом долгосрочную перспективу.

Профессор Кристина Иглицка из Школы коммерции и права в Варшавском университете Лазарского, советник правительства по вопросам иммиграции, говорит, что стране нужны трудолюбивые иммигранты. "По иронии судьбы, нам сейчас нужны те самые люди, которые уехали от нас в Британию в 2004 году", — говорит она.

Западная Европа получила нарицательных "польских сантехников", а в Польшу теперь едут украинские няни и белорусские строители.

И их, возможно, будет все больше и больше, говорится на сайте Би-Би-Си.

ДОСЛОВНО

## Дмитрий МЕДВЕДЕВ: «Без демократии не может быть экономического процветания»

— Я абсолютно уверен, что у нас экономического процветания без демократии быть не может. Поэтому мы должны заниматься не только развитием экономической системы, но и политической.

*(Из выступления на Красноярском экономическом форуме.)*

ЭВРИКА!

## В ближайшее время появится полноценная замена ампутированной руке

Протез руки, который позволяет человеку чувствовать прикосновения к предметам, контролируется силой мысли. Связь с мозгом осуществляется через электроды и нервы в руке (срединный и локтевой), пишет The Telegraph. Отклик поступает от пальцев, ладони и запястья.

Данный протез впервые имплантируют пациенту. Известно, что операция пройдет в больнице Рима. Разработчиком протеза выступил доктор Сильвестро Мицера из Федеральной политехнической школы Лозанны. По сути, это первый протез, дающий тактильные ощущения человеку, лишившемуся конечности.

Четырехнедельные клинические испытания, не предполагавшие полной установки протеза, показали: рука вполне работоспособна и позволяет совершать довольно точные манипуляции. Правда, для этого требуется тренировка (в среднем достаточно месяца). Зато в итоге можно почувствовать движение руки и отклик от пальцев.

## Яхта Абрамовича в Нью-Йорке

**Роскошная яхта российского олигарха Романа Абрамовича Eclipse, стоимость которой, по сообщениям, превышает миллиард долларов, пришвартовалась в Нью-Йорке и сразу оказалась в центре внимания средств массовой информации. Говорят, что на ней в США прибыла беременная жена Абрамовича для того, чтобы роды состоялись именно в Америке.**



Народная Воля
http://www.nv-online.info
22 ЛЮТАГА 2013 г.

ПА-ЗА СЦЭНАЙ

*Не так даўно ў Міністэрстве культуры адбылася вялікая калегія — падводзілі вынікі за мінулы год і акрэслівалі планы на цяперашні. З афіцыйным дакладам, перанасычаным рознымі лічбамі, выступіў нядаўна прызначаны міністр культуры **Барыс Святлоў**. І можна было б сказаць, што калегія прайшла ціха і нават незаўважна, калі б не "заперсаніфікаваная" справаздача былога рэктара Акадэміі мастацтваў, доктара мастацтвазнаўства, старшыні Беларускага саюза літаратурна-мастацкіх крытыкаў **Рычарда Смольскага**.*

*Рычард Баляслававіч абрынуўся з крытыкай на кіраўніцтва Саюза тэатральных дзеячаў, а таксама на мастацкага кіраўніка Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы **Мікалая Пінігіна**.*



# Чаму Дудараў нічога не робіць?

Паводле слоў Смольскага, раней Саюз тэатральных дзеячаў працаваў больш актыўна, а цяпер...

"*Зараз СТД раз у год узнагароджвае "Хрустальнымі Паўлінкамі" тэатральных дзеячаў і на гэтым сваю місію лічыць закончанай,* — выказаў меркаванне прафесар. — *І поўнасцю знікае з творчага жыцця да наступнага 27 сакавіка — Міжнароднага дня тэатра. (...) А раней жа існавала гільдыя рэжысёраў пры СТД, якая збіралася, абмяркоўвала свае прафесійныя праблемы, даволі паспяхова адстойвала інтарэсы прафесіі і тэатра ў цэлым...*"

"Народная Воля" запыталася ў кіраўніка Беларускага саюза тэатральных дзеячаў, драматурга і мастацкага кіраўніка Драматычнага тэатра Беларускай арміі **Аляксея Дударава,** ці згодны ён з крытыкай на свой адрас.

"Я згодны толькі з тым, што няма таго, што раней было, — *адказаў Аляксей Ануфрыевіч*. — Сёння амаль усё закальцавана і завязана на матэрыяльных каштоўнасцях. Карацей кажучы, на фінансах. Раней дзяржава вызваляла нашы прадпрыемствы ад падатку на дабаўленую вартасць і ад падатку на прыбытак — гэтыя сродкі ішлі на рахунак Саюза. І гэта былі вялікія грошы! За кошт гэтага рабіліся і камандзіроўкі, і прэміі выдаваліся, будаваўся Беларускі саюз тэатральных дзеячаў. А апошнія 20 гадоў мы выжываем. Для таго каб абараняць правы і інтарэсы ўсіх творчых саюзаў і суполак, стварылі Беларускую канфедэрацыю творчых саюзаў і культурных фондаў, якую пакуль што ўзначальвае цяперашні міністр культуры спадар Святлоў.

Што тычыцца дзейнасці СТД, то калі кожны з членаў Саюза аддасць па тысячы долараў на ўзносы, то атрымаецца каля мільёна, і тады з тых, хто ўзначальве гэтую суполку, можна нешта і патрабаваць.

Варта заўважыць, што камяні ў бок СТД ляцелі і ў былое кіраўніцтва, цяпер яны ляцяць у мяне. І будуць ляцець яшчэ і пасля мяне! Таму гэта не здзіўляе...

Нагадаю, што Саюз тэатральных дзеячаў, як і той Саюз, які ўзначальвае Смольскі, з'яўляецца заснавальнікам першай і другой тэатральных прэмій. Менавіта як старшыня Саюза я ўзначальваў журы гэтых прэмій (ізноў жа, камяні ляцелі ў мяне — хаця фармальна рашэнне прымаў не я адзін, а так званыя акадэмікі, якіх выбіралі ў тэатрах, але прэтэнзіі былі менавіта да мяне — маўляў, не тым далі, не таго абралі!).

*(Між іншым, сістэма галасавання на Тэатральнай прэміі зроблена такім чынам, што паўплываць ці падагнаць галасы пад густ кагосьці зверху амаль немагчыма. — **М.К.).***

Але калі нехта ведае, як трэба працаваць, то няхай садзіцца на маё месца і дэманструе! Аднак спачатку хай скажа: я зраблю тое, тое і тое. А ўзгадваць, што было 20 ці 30 гадоў таму і вінаваціць тых, хто цяпер нешта робіць, — гэта прасцей за ўсё..."



# Каго раздражняе Мікалай Пінігін?

Не абышоў сваёй увагай спадар Смольскі і дзейнасць мастацкага кіраўніка Купалаўскага тэатра **Мікалая Пінігіна**. Вось толькі ўрывак з выступлення былога рэктара Акадэміі мастацтваў (цытуецца па газеце "Культура"): *"Мастацкія і адміністратыўныя кіраўнікі большасці тэатраў сёння лічаць сябе гэткімі "ўдзельнымі князькамі": маўляў, як хачу, так і кірую творчым калектывам і ўвогуле тэатральным жыццём. А як жа іначай! Пануе свабода творчасці, цэнзуры няма, крытыкаў не чуваць, адным словам — райскае жыццё...*

*Я не супраць "райскага" жыцця ў гэтым недасканалым свеце, хаця вельмі цяжка ўяўляю яго ў творчым асяроддзі. Добра, калі тэатрам кіруе таленавіты, руплівы, па-сапраўднаму дзяржаўны і нацыянальна свядомы дзеяч. Напрыклад, Аляксандр Анісенка ў Віцебску, Аляксандр Козак у Брэсце, Андрэй Новікаў у Магілёве, якія праводзяць вядомыя і аўтарытэтныя фестывалі, падтрымліваюць новую беларускую драматургію...*

*А калі такія, як Мікалай Пінігін — безумоўна, таленавіты, винаходлівы рэжысёр? Той, які ўпарта раз за разам паўтарае, што на аднаўленай сцэне Купалаўскага не будуць ставіць ні Петрашкевіча, ні Макаёнка, ні Крапіву ды іншых беларускіх драматургаў, таму што яны, маўляў, на ягоную думку, не адпавядаюць сучаснаму мастацкаму ўзроўню. Вельмі спрэчная, на мой погляд, пазіцыя. Я вось думаю так: а што, напаўаматарскія замалёўкі шаноўнага пачынальніка беларускай драматургіі Дуніна-Марцінкевіча — гэта шэкспіраўскі ўзровень драматычнай літаратуры? Што, еўрапейскія тэатры "выстраіліся ў чаргу", каб ставіць яго п'есы?*

*Я разумею амбітныя планы Пінігіна паставіць на Купалаўскай сцэне польскага класіка Адама Міцкевіча: гэта цікава, дый у Варшаву запросяць на гастролі.... Хто ж супраць — тварыце! Але мне ўсё ж здаецца, што для мастацкага кіраўніка першага нацыянальнага тэатра больш важным было б паклапаціцца пра беларускую драматургію, пра адкрыццё новага маладога аўтара..."*

У мінулым годзе ў інтэрв'ю "Народнай Волі" Мікалай Пінігін сапраўды гаварыў пра тое, што ў Купалаўскім не плануе ставіць Петрашкевіча, Крапіву і Макаёнка, бо наўрад ці сённяшняя публіка будзе хадзіць на гэтыя пастаноўкі. У свой час, канешне, п'есы таго ж Андрэя Макаёнка сапраўды былі на злобу дня і карысталіся поспехам. А сёння там многае састарэла, бо час не стаіць на месцы. І калі пад прымусам заганяць у тэатр на такую класіку школьнікаў і студэнтаў, ладзіць абавязковыя паходы ў тэатр — гэта значыць адбіць у іх жаданне наведваць тэатры ў будучыні, бо там сумна і не чапляе.

*"У нас няма такога моцнага запасу класікі, каб бясконца яе ставіць,* — тлумачыў сваю пазіцыю Пінігін на старонках "Народнай Волі". — *"Тутэйшыя" — вось бясконцая класіка. П'еса на ўсе часы".*

Пінігін ставіць беларускіх класікаў. Але калі за творамі Дуніна-Марцінкевіча не выстройваюцца чэргі замежных тэатраў, як кажа прафесар Смольскі, дык хіба яны ўжо стаяць у чарзе за п'есамі Крапівы ці Макаёнка?

А тое, што Пінігін працуе над "Панам Тадэвушам", можна толькі вітаць. І беларусам, здаецца, не варта дыстанцыравацца ад гэтай асобы — ён тут нарадзіўся, ва ўсіх энцыклапедыях напісана, што *"зрабіў вялікі ўплыў"* на станаўленне не толькі польскай, але і беларускай літаратуры, у Навагрудку працуе Дом-музей Міцкевіча. Палякі лічаць яго сваім, літоўцы — сваім, а беларусы, атрымліваецца, замежнікам?..

І добра, калі той жа Купалаўскі тэатр з "Панам Тадэвушам" палякі запросяць да сябе з гастролямі (і не толькі яны!), і яшчэ лепей — калі за свой кошт, бо не так шмат беларускія драматычныя тэатры гастралююць за мяжой (і не таму, што няма чаго паказаць, а таму, што падобныя ваяжы за мяжу дорага абыходзяцца).

Амаль усе беларускія рэжысёры час ад часу атрымліваюць наганяй за тое, што не шукаюць маладых аўтараў. Папракалі за гэта і папярэдніка Пінігіна **Валерыя Раеўскага**, і таму ж **Валерыю Анісенку** пра гэта нагадвалі, і **Барысу Луцэнку**... Той жа Пінігін наўрад ці будзе адмахвацца ад таленавітых п'ес маладах аўтараў. Але яму, як і любому іншаму мастацкаму кіраўніку, важна не проста паставіць твор новага аўтара, але і тое, каб гледачы наведвалі спектаклі, каб не пуставалі залы. Бо ад гэтага напрамую залежыць заробак артыстаў. Мастацкі кіраўнік і дырэктар тэатра персанальна адказваюць за напаўняльнасць залаў, яшчэ да нядаўняга часу яны павінны былі выконваць нейкія планы па гэтых паказчыках.

Для тых, хто забыўся альбо не ведае, нагадаю: сёння ў Купалаўскі тэатр на некаторыя спектаклі не дастаць квіткоў. За месяц трэба паклапаціцца аб тым, каб набыць білет у Купалаўскі на тое месца, на якое хочаш. Бо літаральна праз паўтары гадзіны пасля таго, як пачынаецца продаж квіткоў на наступны месяц, прыходзіцца выбіраць ужо не тое, што хочацца табе, а тое, што прапануе з астаткаў касірка. І гэта пры тым, што тэатр на рэканструкцыі, вандруе па чужых сцэнах! А што будзе тады, калі Купалаўскі адчыніцца пасля рамонту і некаторыя пэўны час будуць хадзіць у Купалаўскі не толькі дзеля спектакляў, але і для таго, каб сфатаграфавацца з любімым артыстам (ці без яго) у абноўленым інтэр'еры?

Канешне, Мікалай Пінігін не ідэальны. З ім можна пагаджацца альбо не, спрачацца. Ягоную філасофію тэатра можна прымаць альбо не прымаць. Аднак супраць фактаў, як кажуць, не папрэш: сёння Купалаўскі па наведвальнасці — на другім месцы па колькасці прададзеных білетаў пасля Вялікага тэатра оперы і балета. І гэта даволі сур'ёзны аргумент. З усіх драматычных тэатраў у Купалаўскім артысты больш за ўсіх зарабляюць (хаця і гэтыя заробкі — не тыя, якімі можна было б ганарыцца, але тым не менш). Калі б у Пінігіна былі пустыя залы, тады да слоў Смольскага варта было б прыслухацца, а так...

Не сакрэт, што Мікалай Пінігін многіх раздражняе. Тым, што да яго прыхільна ставілася мінулае кіраўніцтва Міністэрства культуры. А яшчэ сваёй незалежнасцю, сваім стылем, сваімі падыходамі.. Але гэта — зусім іншая гісторыя. І яна ўжо не пра мастацтва...

**Марына КОКТЫШ.**

***P.S. У сваім выступленні спадар Смольскі пахваліў галоўнага рэжысёра, а цяпер ужо і мастацкага кіраўніка Сяргея Кавальчыка: маўляў, выступіў з ініцыятывай правесці на сцэне Тэатра імя Горкага год беларускай драматургіі. І ў тэатры будуць ставіць не толькі Дударава, Курэйчыка і іншых, а і класічную спадчыну Макаёнка. На першы погляд сапраўды выдатна! Калі б не адзін прыкры нюанс. Вядома, што рэжысёр Барыс Луцэнка ставіць "Зацюканага апостала" на... рускай мове. Вось табе і беларуская класіка ў год беларускай драматургіі...***

ЗВЕЗДЫ



## Свадьбы не будет

*Популярная российская исполнительница **Жанна Фриске** дала интервью, в котором наконец рассказала о своей долгожданной беременности и о том, будет ли у них свадьба с отцом ребенка белорусом **Дмитрием Шепелевым**.*

Так вот: свадьбы не будет.

Жанна объяснила: *"Обязательно нужна свадьба? Раз родится ребенок, значит, нужно узаконить отношения? Нужно собрать гостей, чтобы все пили, ели и невеста была в белом платье? Не знаю, может, времена изменились, но мы с Димой по-другому смотрим на это. Для того чтобы быть вместе, нам не нужны загсы, штампы и вся остальная атрибутика. Мы счастливы, и это самое главное".*

Шепелев высказался в том же духе. *"Разумеется, мы оба очень счастливы и живем предстоящим событием. Мы очень взволнованы, но вместе с тем спокойны и уверены в себе. И я, и Жанна относимся к рождению ребенка как к интересному, но ответственному приключению",* — сказал белорус Шепелев, совершенно освоившийся в российской звездной тусовке.

**Елена ДАВЫДОВА.**

СВЕТСКАЯ ХРОНИКА

## Анжелика АГУРБАШ: «Я вся в любви!»

*На дне рождения композитора Аркадия Укупника Анжелика Агурбаш встретилась со своим бывшим мужем.*



"В свое время и Николай, и Анжелика были дружны с юбиляром, поэтому оба получили приглашения, — сообщает подробности российская "Экспресс-газета". — Вот только ни он, ни она никак не ожидали увидеть на торжестве свою бывшую половину. Без скандала не обошлось: супруги впервые после развода оказались в одном пространстве. Сели экслюбовники по разным сторонам зала. И старались даже не смотреть в сторону друг друга".

На мероприятие певица пришла без спутника, и когда журналисты уточнили, свободно ли ее сердце, Агурбаш ответила: *"Я вся в любви. В любви к детям, к жизни. И к мужчинам..."*

**Вера ВИР.**

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# Містыфікацыя і ніякага махлярства

*Падчас чарговых Гарэцкіх чытанняў, што днямі праходзілі ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, адбыўся цуд...*

Можна спрачацца, але іншай дэфініцыі працэсу, калі міф абрастае рэальнасцю, я прыдумаць не магу. А адбылося менавіта гэта — прыгожая і таленавітая містыфікацыя журналіста і пісьменніка **Сяргея Дубаўца** стала рэальнасцю.

На пачатку лютага ў сваім блогу на сайце Радыё Свабода Дубавец змясціў допіс "Асколкі літаратурнай перапіскі", дзе апісаў выдуманыя кавалачкі ніколі не існуючых лістоў знакамітых пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя. Усе лісты тычыліся творчасці **Максіма Гарэцкага** і яго месца ў сусветнай літаратуры. Містыфікацыя з інтэрнэту перавандравала ў выступленне аднаго з дакладчыкаў на Гарэцкіх чытаннях, а адтуль — на старонкі "Народнай Волі" у тэкст "Лісты каханай Максім Гарэцкі пісаў штодзённа". Праўда, ужо ў выглядзе факта медыцынскага, як любіў казаць філосаф і журналіст **Аляксандр Грыцанаў**.

На шчасце, знайшліся знаўцы, што змаглі ўказаць на памылку, — маўляў, спадарыня Малевіч, а разам з ёю і рэдактура з карэктурай, прагледзелі літаратурны канфуз, павяліся на цытату спецыяліста, не праверыўшы факты. Так бы мовіць, ажывілі містыфікацыю Дубаўца.

Як аўтар таго самага "скандальнага матэрыялу", не магу вінаваціць іншых у сваёй памылцы. Дый сэнсу не бачу. Цытата з Дубаўца прагучала на сур'ёзнай канферэнцыі з вуснаў паважанага і прыемнага чалавека. Магчыма, гэта быў такі тонкі жарт. З тых, на які трэба рэагаваць рафінiраванай усмешкай - ну, мы ж бачым, дзе тут падвох. Ведаеце, я не заўважыла тых самых усмешак. Асабістых ведаў мне не хапіла, каб сказаць: гэта fake, памылка, фальсіфікацыя, а ўслых ці паводзінамі ніхто выступоўцу не расшыфраваў. Што ж, я няправільна расцаніла невербальныя сімвалы, падумаўшы, што маўчанне —прыкмета згоды...

На жаль, Кафка з Гашакам не абмяркоўвалі творчасць Гарэцкага, а Камю не пісаў Сартру пра беларускага класіка. Маглі б. Але не склалася. Містыфікацыя Сяргея Дубаўца толькі намякнула — не забывайцеся, што наш суайчыннік стварыў выдатнейшыя творы, вартыя самай пільнай увагі. Са свайго боку хачу папрасіць прабачэння ў чытачоў, што лічаць сябе падманутымі.

Мусіць, каб канчаткова расставіць усе кропкі над "і", трэба крыху паразважаць аб агульнай адукацыйнай занядбанасці і, не пабаюся гэтага слова, дэградацыі. Што ж, канстатую: большасць маладых беларусаў ва ўзросце да 30 гадоў увогуле не ведаюць, хто такі Максім Гарэцкі, а калі ведаюць, то не назавуць вам ніводнага твора гэтага пісьменніка. Гэта не перабольшванне, можаце самі правесці апытанне. Можна злавацца, крычаць уголас, але гэта таксама факт. На жаль.

Так што гульню ў ажыўленне містыфікацыі Дубаўца мне прыемней лічыць нагодай для таго, каб яшчэ раз узгадаць імя цудоўнага беларускага пісьменніка **Максіма Гарэцкага**. Ну а каму хочацца яшчэ раз панаракаць на пануючую ў галовах маладых разруху — калі ласка...

## ДАРЭЧЫ

У амерыканскай культуры ёсць такое цікавае паняцце — *Easter eggs,* ці "велікодныя яйкі". За акіянам на Вялікдзень прынята хаваць у садзе пачастунак, каб дзеці самі яго шукалі. А яшчэ велікоднымі яйкамі называюць прыхаваныя ў літаратуры, кінематографе і нават камп'ютарных гульнях адсылкі да іншых твораў. Можна сказаць, што такое "велікоднае яйка" схавалася і ў тэксце "Народнай Волі". Праўда, распавялі нам аб сваёй знаходцы толькі два чалавекі, якія, абураныя, патэлефанавалі ў рэдакцыю. За што ім, канешне, вялікі дзякуй!

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ПРЭМ'ЕРА!

## «Раскіданае гняздо» Аляксандра Гарцуева

*Мастацкі кіраўнік Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Аляксадр Гарцуеў узяўся за класіку — ён ставіць "Раскіданае гняздо" Янкі Купалы. Прэм'ера запланавана на 5 красавіка, рэпетыцыі ўжо ідуць поўным ходам!*

*"П'еса не згубіла актуальнасці і запатрабавана сёння",* — лічыць рэжысёр.

У галоўных ролях — зоркі тэатра **Ігар Сігаў** і **Людміла Сідаркевіч**.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ВЕРНІСАЖ

## Паасобку беларусы не прадаюцца, а разам каштуюць дорага...

*На выставе "Мір дзяцінства" гасцям прапанавалі набыць суайчыннікаў у нацыянальных строях. Не хвалюйцеся — суайчыннікі лялечныя.*

Адно з беларускіх прадпрыемстваў, што займаецца вытворчасцю дзіцячых лялек, прывезла на выставу ў Мінск цікавую прапанову — мадэль беларусаў. У скрынцы — мужчына і жанчына ў нацыянальных строях. Ужо існуе некалькі варыянтаў адзення з розных рэгіёнаў Беларусі, але ў масавым продажы лялькі знайсці цяжка.

На стэндзе прадпрыемства "Народнай Волі" паведамілі, што плануюць ажыццяўляць замовы невялікімі партыямі. Лялькі атрымліваюцца даволі дарагімі — раздзяляць пару нельга, а строі робяцца ўручную з захаваннем самых тонкіх нюансаў. Таму зараз прадпрыемства шукае зацікаўленых партнёраў, што захацелі б замовіць некалькі экзэмпляраў сувенірных лялек.

## ДАРЭЧЫ

## На дзіцячыя каляску і ложак трэба тысяча долараў?

*Госці выставы "Мір дзяцінства" яшчэ раз упэўніліся, што выхоўваць дзяцей у Беларусі — дорага.*

Арганізатары выставы-кірмашу "Мір дзяцінства" сабралі гандляроў дзіцячымі таварамі ў адзін час і ў адным месцы. Таму не дзіўна, што на адкрыццё выставы падцягнуліся цяжарныя жанчыны і мамы з каляскамі.

*"Прыйшлі сюды з дачушкай і бабуляй, каб прыглядзецца да коштаў,* — прызналася маладая мама Тома. — *Набудзем што-небудзь, толькі калі таннае знойдзем, але пакуль нічым не спакусіліся. У інтэрнэце можна і таннейшыя рэчы знайсці*".

Сапраўды, большасць удзельнікаў выставы прапануюць самую лепшую сваю прадукцыю, а значыць, і самую дарагую. Напрыклад, дзіцячыя каляскі ад польскага вытворцы прапаноўвалі па цане ад 125 да 400 долараў, а беларускія дзіцячыя роварчыкі цягнулі на 100—1120 долараў. Набор талерачак ад вядомага заходняга вытворцы каштуе каля 30 долараў. І гэта са скідкай!

За першы ў жыцці вашага любімага дзіцяці ложак таксама папросяць каля 100 долараў. Прыкладна столькі ж пойдзе на матрац, падушку, коўдру і бялізну. Калі бацькі вырашаць аблегчыць сваё жыццё з дапамогай стульчыка для кармлення (57 да 136 долараў), аўтакрэсла (ад 21 да 130 долараў) і манежа (ад 77 да 124 долараў), то агульная сума наблізіцца да 700 долараў. І гэта не ўлічваючы штодзённыя марнаванні — сумесі, пюрэ, памперсы, паўзуны і гэтак далей.

Нават з улікам падвышаных выплат на выхаванне дзяцей гэта сума ўражвае...

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

КВАДРАТНЫЯ МЕТРЫ

# Мінчане часцей прадаюць «сталінкі» і кватэры ў навабудах

*Беларусы не гатовы аддаваць прэстыжнае жыллё ў цэнтры горада і кватэры ў толькі што адбудаваных дамах па даступных коштах.*

Прадстаўнікі рыэлтарскіх фірм апошнім часам зноў зафіксавалі скачок коштаў на жыллё ў Мінску. Зараз сярэдні кошт квадратнага метра на другасным рынку жылля складае **1445 долараў**, на першасным — **1349 долараў**. Цікава, але часцей за ўсё прапаноўваюць двухпакаёвыя кватэры, куды менш прапаноў аднапакаёвых і чатырохпакаёвых. Яшчэ даволі забаўным можа здацца тое, што прадаюць у асноўным жыллё ў нядаўна адбудаваных дамах ці прэстыжных "сталінках". Кошты на кватэры і там, і там могуць шакіраваць непадрыхтаванага чалавека.



Напрыклад, трохпакаёвая "сталінка" па адрасе Незалежнасці, 22 (гэта сапраўды самы цэнтр — Кастрычніцкая плошча) каштуе **240 тысяч долараў**. Падобная кватэра недалёка ад Тэатра оперы і балета цягне ўжо на **330 тысяч долараў**. Складана патлумачыць, чаму аднапакаёўка на Кірава каштуе **115 тысяч долараў**, а трохпакаёўка — **130 тысяч**.

Не менш за "сталінкі" папулярныя кватэры ў дамах, якія яшчэ будуюцца.

*"Навабудоўля. Маналітна-каркасны дом! Тэрмін здачы - 2-гі квартал 2013 года. Агульная плошча 134,78. Жылая 78,4. Кухня 11,1. 3 лоджыі, 2 сан. вузлы, да станцыі метро "Грушаўка" 5 хвілін пешшу*", — нахвальвае ў аб'яве гаспадар сваю яшчэ неадбудаваную кватэру і просіць за ўсё пра ўсё 185 тысяч долараў.

За свежую аднапакаёвую кватэру выключна з чарнавой сцяжкай на ўскраіне сталіцы просяць 58 тысяч долараў, за двухпакаёўку — ад 70 тысяч долараў.

**Марыя БУДНІК.**

СТИЛЬ

## Какие тапочки носят дизайнеры дома?

С 7 по 23 марта в художественной галерее "Университет культуры" пройдет первая выставка домашних тапочек.

*— Домашние тапочки мы носим не напоказ, а для себя, а значит, можем быть по-настоящему искренни в выборе*, — говорит модельер **Иван Айплатов.** *— Именно поэтому они могут ярко раскрыть индивидуальность человека. Дизайнеры всего мира уделяют огромное значение аксессуарам — почему бы нам не обратить внимание публики на этот незаслуженно забытый, как будто потерявшийся в шкафу, предмет гардероба?*

*Первый белорусский арт-проект, посвященный домашним тапочкам, "Тапографика" предложил известным белорусским деятелям культуры переосмыслить этот аксессуар и представить зрителям свое видение домашнего уюта на современный лад.*

Участниками проекта "Тапографика" стали именитые люди — художники **Владимир Цеслер, Дмитрий Сурский, Руслан Вашкевич,** фотограф **Андрей Щукин,** скульптор **Константин Селиханов** и другие.

**Алина ВЕТРОВА.**

